ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 341 Год выд. XXXVI | Лістапад 1987

## БЕЛАРУШЧЫНА Й «ПЕРАБУДОВА»

***Заціснуты, задушаны, як мышы,***
***Пад жорсткім венікам з усіх бакоў,***
***Шукаем, як сьляпыя, ня згубіўшы***
***Таго свайго, што наша ад вякоў.***

Янка Купала. Перад будучыняй (верш 1922 г., забаронены ў БССР).

Гэткага паніжэньня нельга сабе ўявіць у ніякай краіне зь менш-больш цывілізаваным ладам, нават у Савецкім Саюзе ў дачыненьні да расейскае мовы. Уяўляеце сабе, каб нямецкія, францускія, данскія ці швэдзкія пісьменьнікі зварачаліся да свайго ўраду, да сваіх афіцыйных уладаў, каб яны дапамаглі ім растлумачваць грамадзтву ролю роднае мовы ў разьвіцьці нацыянальнае культуры? Або каб расейскія пісьменьнікі ў СССР зварачаліся да ўладаў свае рэспублікі з падобнай просьбай?.. А Беларусам давodзіцца дамагацца ад уладаў «свае» рэспублікі дазволу на «выхаваньне павагі да беларускай мовы нароўні з рускай», пленум дзеля гэтага трэба склікаць, пастанову прыймаць. А ў пастанове прасіць таксама дазволу на ўшанаваньне свайго першадрукара й асьветніка: пленум «рэкамэндуе» «зьвярнуцца з просьбай», каб на радзіме Скарыны было дазволена праводзіць «Сьвята славянскай пісьменнасьці».

Якія ўсё-ж цяжкія кайданы савецкае «дэмакратыі», якая цесная яшчэ «перабудоўваная» цяпер турма! Ад партыйных уладаў, ад самазадаволеных у сваім культуртрэгерскім дагматызьме бюракратаў-русыфікатараў выпрошваецца дазвол на культываваньне найсьвяцейшага, што народ можа мець — мовы свае, свае культурнае спадчыны. І пампезна ўсё гэта абвяшчаецца «дэмакратыяй», «свабодай», «росквітам» нацыянальнай культуры. Якое спачварнаньне слоў і паняцьцяў!..

У Канадзе, калі Квэбэкцы пабачылі пагрозу сваёй роднай французскай мове з боку ангельскае, дык узьнялі ў 1970-х гадох цэлую палітычную буру, стварылі рух, правялі сваіх кандыдатаў у правінцыйныя органы ўлады ды прыгразілі выхадам з фэдэрацыі — і дамагліся запраўднага двумоўя на цэлую Канаду, у якой Квэбэкцаў толькі 25% ад усяго жыхарства. У «сувэрэннай»-жа Беларускай ССР 80% жыхароў — Беларусы. І гэтая бальшыня мусіць прасіць урад рэспублікі — на 70-м годзе «сацыялістычнага будаўніцтва»! — «увесьці выкладаньне асноўных прадметаў на гуманітарных факультэтах ВНУ і ў сярэдніх спэцыяльных навучальных установах на беларускай мове». А чаму ня ўсіх прадметаў? Чаму і ня ў дзіцячых садкох ды ў сярэдніх агульнаадукацыйных школах?

Пленум літаратараў «ставіць пытаньне аб тым, каб прасіць» Дзяржкамвыд БССР выдаць стэнаграмы пісьменьніцкіх зьездаў. Тое, што ў нармальным сьвеце становіць рутынную рэч — адбыўся зьезд — выйшлі стэнаграмы — калі ласка, грамадзяне, знаёмцеся з тым, пра што спрачаліся ўдзельнікі зьезду — для савецкае рэспублікі праблема: патрэбная пастанова пленуму, трэба прасіць, чакаць, варажыць — а можа й выдадуць?..

Кітайскае партыйнае кіраўніцтва нядаўна зусім шчыра прызналася: каб падцягнуць Кітай да сучаснага ўзроўню, спатрэбіцца сто гадоў. Менскім бюракратам у дачыненьні да беларускае нацыянальнае культуры, як выглядае, больш падарозе зь Кітайцамі. Тут таксама патрэбныя будуць прынамся другія 70 гадоў, каб нармальна мог працаваць клюб «Спадчына», каб выходзіла сэрыя зборнікаў «Спадчына», каб у дзіцячых садках і ўсіх школах гучэла беларуская мова. Разьлік у кампартыі пры гэтай тактыцы замаруджваньня відавочны: дачакацца, каб гэтая ўпартая беларушчына сканала дашчэнту.

## ПРОСЬБА АМЭРЫКАНСКІХ БЕЛАРУСАЎ ДА ГЕНЭРАЛЬНАГА САКРАТАРА ЦК КПСС М. С. ГАРБАЧОВА

Мы, амэрыканскія Беларусы й Амэрыканцы беларускага паходжаньня, горача просім Вас паспрыяць таму, каб два адкрытыя лісты да Вас ад прадстаўнікоў беларускага савецкага грамадзтва (ліст 28-х і ліст 134-х) былі пададзеныя сродкамі савецкае масавае інфармацыі да агульнага ведама ды каб ЦК КПСС і ЦК КПБ задавольнілі просьбу Беларусаў, выказаную ў гэных лістох. Гэткая акцыя ўзначальванага Вамі партыйнага кіраўніцтва будзе незапярэчным давoдам таго, што публічнасьць у Савецкім Саюзе пашыраецца ды што перабудова й дэмакратызацыя ідуць напeрад.

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ: ПРАГРАМА МІНІМУМ

Калі «Дадатак» да ліста 28-х, высланага М. Гарбачову напрыканцы году летась, можна разглядаць, як праграму максымум, дык праграму мінімум сфармуляваў на сваім пленуме ў чэрвені сёлета Саюз Пісьменьнікаў Беларусі.

У пастанове пленуму праўленьня СП, што адбыўся 4.VI.1987 г., выказаныя падобныя дамаганьні, як і ў лісьце 28-х, толькі ў вузейшым маштабе і мякчэйшай мовай.

Вось галоўныя беларусізацыйныя пункты пастановы («Літ. і Маст.,», 10.VII.87) (усіх пунктаў 12):

«6. Пленум выказваецца за больш шырокае выкарыстаньне беларускай мовы ў дашкольных установах і абавязковае вывучэньне яе, пачынаючы зь першага класу ўва ўсіх школах рэспублікі, за пашырэньне выкарыстаньня яе ў справаводзтве, за выхаваньне павагі да беларускай мовы нароўні з рускай у насельніцтва, ува усіх кадраў, што працуюць у рэспубліцы.

«Прасіць Урад рэспублікі ўвесьці выкладаньне асноўных прадметаў на гуманітарных факультэтах ВНУ і ў сярэдніх спэцыяльных навучальных установах на беларускай мове.

«Пленум СП БССР зьвяртаецца ў Вярхоўны Савет, Урад рэспублікі з просьбай узмацніць кантроль за выкананьнем заканадаўчых актаў, якія гарантуюць разьвіцьцё нацыянальнай культуры, асьветы, роднай мовы і ўдасканальваць адпаведнае заканадаўства.

«7. Прасіць ЦК КПБ стварыць рэспубліканскую камісію па праблемах беларускай мовы, культуры і гісторыі, у якую-б увайшлі прадстаўнікі грамадзкасьці, навуковай і творчай інтэлігенцыі. Надаць гэтай камісіі статус кансультатыўнага, навуковадасьледчага, з дастаткова шырокімі паўнамоцтвамі органу па пытаньнях стану і разьвіцьця нацыянальнай мовы і культуры ўва ўмовах двухмоўя.

«8. Пленум рэкамэндуе ўсім органам друку СП БССР, пісьменьнікам і крытыкам прадоўжыць працу па актыўнаму растлумачэньню грамадзтву ролі беларускай і рускай моў у справе разьвіцьця нацыянальнай культуры, нацыянальнай і інтэрнацыянальнай сьвядомасьці, па асьвятленьню становішча беларускай мовы і выхаваньню павагі да яе. (...)

«10. Пленум рэкамэндуе кіраўніцтву СП зьвярнуцца ў дырэктыўныя органы з просьбай аб тым, каб на радзіме вялікага першадрукара і асьветніка Скарыны, у мэтах актывізацыі прапаганды роднай і іншых славянскіх культураў, гісторыі, мовы і літаратуры праводзіць штогод Сьвята славянскай пісьменнасьці — па прыкладу сьвята, што пачало праводзіцца з 1986 году ў РСФСР.

«11. Пленум ставіць пытаньне аб тым, каб прасіць Дзяржкамвыд БССР выдаць стэнаграмы зьездаў пісьменьнікаў Беларусі (з IV па IX). (*IV-ты зьезд СП адбыўся ў лютым 1959 г. — рэд. «Б-са»*).

«12. Пленум даручае прэзыдыюму праўленьня СП Беларусі ўва ўстаноўленым парадку вырашыць пытаньне аб літаратурных прэміях СП БССР: па драматургіі імя В. Дуніна-Марцінкевіча, па дзіцячай і юнацкай літаратуры імя Алаізы Пашкевіч (Цёткі), па нарысу і публіцыстыцы імя Кузьмы Чорнага, па крытыцы і літаратуразнаўстве імя Максіма Гарэцкага, па мастацкаму перакладу імя Максіма Багдановіча».

## НОВЫ КАЛЕКТЫЎНЫ ЛІСТ НА БЕЛАРУСІ

*Ад Рэдакцыі: Артыкул гэты прысланы нам «з таго боку» і дзеля гэтага зьмяшчаем яго, не падаючы прозьвішча аўтара.*

Здаецца, што практыка арганізацыі калектыўных лістоў і адозваў уваходзіць у нейкую беларускую «перабудовачную» традыцыю. Пасьля двух калектыўных лістоў М. С. Гарбачову, што нарабілі столькі шуму на сьвеце, мы зьяўляемся светкамі новай масавай кампаніі пратэстаў у Беларускай ССР. На гэты раз мова ідзе аб зьбіраньні подпісаў пад калектыўным лістом-пратэстам супраць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС (гідра-электрычнай станцыі — рэд. «Б-са»). Як-бы мы ні ацэньвалі гэтую новую кампанію зьбіраньня подпісаў сярод Беларусаў, адзін вывад бясспрэчны: гэта выдатная школа дэмакратыі, якая ўзгадоўвае і палітычную і нацыянальную сьвядомасьць беларускага народу.

Даўгаўпілская ГЭС, якая паўстае на мяжы Латвіі і Беларусі, і на падрыхтоўчыя работы да будаўніцтва якой ўжо выдадзена больш за 20 млн. рублёў, можа прынесьці беларускай зямлі нязьлічоныя экалягічныя страты. ГЭС спрычыніцца да зьяўленьня на карце Беларусі штучнага, даволі вялікага мора, якое паглыне сваімі водамі значную частку паўночна-ўсходняй Беларусі. Павінны будуць зьгінуць назаўсёды тысячы гэктараў добрай ворнай зямлі, пад вадой апынецца шматлікія гістарычныя помнікі. Беларусы страцяць адзін з самых прыгожых і экалягічна чыстых куткоў сваёй нацыянальнай тэрыторыі. Вучо-

*(Заканчэньне на 6-й б.)*

### УЦЕКАЧЫ З СССР У ЗША

Паводля кангрэсавага рапарту, як пра гэта паведаміла газэта «Нью-Ёрк Таймс» (9.X.87), з Савецкага Саюзу ў Амэрыку штагоду ўцякае ў сярэднім 50 савецкіх грамадзянаў. Кангрэсавы рапарт прадбачыць, што бліжэйшымі гадамі лік савецкіх уцекачоў можа ўзрасьці, і гэта было-б паказальнікам росту расчараваньня ў савецкім грамадзтве з прычыны няздольнасьці партыйнага кіраўніцтва правесьці абяцаныя зьмены.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРЭЗ. РЭЙГАН: «СССР — ІМПЭРЫЯЛІСТЫЧНАЯ ДЗЯРЖАВА»

Выступаючы з прамоваю перад кадэтамі Ваеннай Акадэміі ЗША ў Вэст-Пойньце, Прэз. Рэйган гаварыў пра амэрыканска-савецкія дачыненьні, актуальныя асабліва цяпер у сувязі зь недалёкім візытам у Амэрыку Генэральнага Сакратара ЦК КПСС М. Гарбачова. Прэз. Рэйган выказаў яшчэ раз устурбаванасьць роляй Масквы ў рэгіянальных канфліктах. У сувязі з чым Рэйган сказаў: «Кожны хто шукае пацьверджаньня, што Саветы застаюцца экспаньсіянісцкай — фактычна, імпэрыялістычнай дзяржавай — не патрабуе глядзець далей як Нікарагуа або Афганістан».

Паказальна, між іншага, што называючы чатыры «крытычныя дзялянкі», якія знаходзяцца ў цэнтры амэрыканска-савецкіх дачыненьняў, Прэз. Рэйган паставіў на першае месца не скарачэньне зброі, як ён гэта часта рабіў раней, а правы чалавека.

Вось-жа з гледзішча на правы чалавека — паняцьце, у якое ўваходзяць таксама й правы культурна-нацыянальныя — няма лепшага доваду маскоўскага імпэрыялізму, як Беларусь. Тут мы маем прыклад ня толькі імпэрыялізму ідэялягічнага й палітычнага, але й культурнага, перш-наперш моўнага.

Удушлівы, этнацыдны характар савецкага імпэрыялізму ў БССР прывёў да таго, што расейская мова захліснула ўжо блізу ўсе школьныя ўстановы рэспублікі, пераважную бальшыню сродкаў масавае камунікацыі, тэатраў, кіно, кніжнае прадукцыі, і нават селавое адміністрацыі. Выпраўдваньне савецкай прапагандай гэтае моўнае экспансіі тым, што гэта — «дабраахвотнае далучэньне да мовы братняга народу», разьлічанае на наіўных і неабазнаных, бо-ж ніякіх апытаньняў грамадзкае думкі, ніякіх рэфэрэндумаў у БССР не праводзілася. «Аргумэнт» пра «дабраахвотнае далучэньне» — гэта рэха «застойнага пэрыяду», асуджанага, быццам-бы, гарбачоўскай «перабудовай», але як бачым, асуджанага не ўва ўсіх аспэктах.

Моўны стан на Беларусі, гэткім парадкам, гэта — найзырчэйшае пацьверджаньне слушнасьці словаў Прэзыдэнта Рэйгана аб тым, што СССР і надалей — дзяржава «экспаньсіянісцкая», «імпэрыялістычная». І як гэткую яе трэба далей выкрываць, паказваць на ейны этнацыдны, народагубны характар.

## *«БАЦЬКАЎШЧЫНА»*

*(1947-1987)*

Першы нумар газэты «Бацькаўшчына» выйшаў 31 кастрычніка 1947 году. Рэдактарамі газэты былі Антон Адамовіч і Лявон Савёнак. Шматгадовым ейным рэдактарам быў пасьля Станіслаў Станкевіч.

Выхад першае беларускае газэты ў паваенным пэрыядзе ў Заходняй Нямеччыне фактычна пачынаў новы этап жыцьця беларускае палітычнае эміграцыі. Газэта давала беларускай эміграцыі магчымасьць выказаць і абгрунтаваць свае палітычныя перакананьні, накрэсьліць праграму дзеяньня ў эміграцыйных абставінах ды задакумэнтаваць сваю дзейнасьць.

Перадавіца першага нумару «Бацькаўшчыны» абгрунтоўвала назоў новае газэты гэтак: «Бацькаўшчына — гэта-ж ня толькі зямля бацькоў і бацькоў бацькоў, аж углыбкі сівых пакаленьняў. Бо Бацькаўшчына — гэта найперш уся спадчына гэных пакаленьняў, увесь духовы набытак іх, пераказваны з роду ў род... І гэткая Бацькаўшчына — не ў зямлі, а ў людзях першым і галоўным чынам. Яна ў нас самых, у нашых думах... І гісторыя сёньня павярнулася так, што там, на зямлі бацькоў, якраз няма месца гэтай сапраўднай Бацькаўшчыне — няма месца пад сонцам... Улада ўстанавіла сёньня запраўдную чужыну на нашай Бацькаўшчыне. І як адказ на гэткі стан — беларускі палітычны актыў пастанавіў назваць новую беларускую газэту Бацькаўшчынай... Няхай яна — Бацькаўшчына-Маці вечна будзе з намі і ў нас, у сэрцах, у душах, у думах і ў чынах нашых».

Крэда «Бацькаўшчыны» было ясна сфармуляванае: працаваць і ствараць для Бацькаўшчыны паза Бацькаўшчынай, на чужыне.

Выхад рэгулярнае беларускае газэты меў вялікі ўплыў на эміграцыю: эміграцыя кансалідавалася, у газэце былі абмеркаваныя і ўдакумэнтаваныя асновы дзяржаўніцкага руху пад сьцягам БНР, выдрукавана цімала дакумэнтальнага матар'ялу зь гісторыі беларускага незалежніцкага руху, прадыскутаваныя болькі нашага нутранога стану, удакумэнтавана беларуская дзейнасьць ня толькі ў Нямеччыне, але й па цэлым сьвеце. У «Бацькаўшчыне» былі выдрукаваныя сотні твораў беларускіх пісьменьнікаў, а ў створаным пры газэце выдавецтве «Бацькаўшчына» быў закладзены моцны падмурак беларускае эміграцыйнае літаратуры.

У БССР газэта «Бацькаўшчына» доўгі час была цэнтрам нападкаў савецкае прапаганды. Не магла прайсьці моўчкі паўз яе і Беларуская Савецкая Энцыкляпэдыя, хоць хлусьлівай даведкай, але ўсё-ж адзначыла 20 гадоў выхаду газэты.

У сараковы юбілей «Бацькаўшчыны», разглядаючы ейныя вельмі інфарматыўныя старонкі, трэба сьцьвердзіць, што роля гэтае газэты ў жыцьці беларускае эміграцыі была надзвычайна важная, доўгія часы ў будучыні «Бацькаўшчына» будзе крыніцай вывучэньня і беларускае эміграцыі і пагляда ў беларускіх незалежнікаў-адраджэнцаў Беларускае Народнае Рэспублікі.

**Вітаўт Кіпель**

## *МЕНСК І АЛМА-АТА: «ГЛЫБОКАЯ ЎЗАЕМАСУВЯЗЬ»*

### *ПРАФ. А. АЎТАРХАНАЎ ПРА ЛІСТЫ ДА ГАРБАЧОВА*

Шырака ведамы на Захадзе спэцыяліст савецкіх праблемаў праф. Абдурахман Аўтарханаў адну із сваіх радыёперадачаў у радыё «Свабода» напісаў на тэму «Праблема нацыянальных моваў у сьвятле ліста Беларусаў да Гарбачова». Праф. Аўтарханаў, між іншага, піша:

«Новыя савецкія лідэры ашукавалі самыя сябе, калі ў чарговай рэдакцыі 'Праграмы КПСС' прынятай на 27-м зьезьдзе партыі, катэгарычна заявілі: 'Нацыянальнае пытаньне, якое засталося ад мінулага, у Савецкім Саюзе пасьпяхова вырашанае'. А калі сьледам за 'пасьпяховым вырашэньнем' нацыянальнага пытаньня прыйшоў алмаацінскі шок, дык заміж цьвярозага аналізу глыбінных прычынаў росту нацыянальных рухаў на ўскраінах, заміж перагляду ўласнай вялікадзяржаўніцкай палітыкі, Крэмль і далей ужывае чыста сталінскія рэцэпты ейнага праводжаньня. Адсюль, прыкладам, татальная чыстка нацыянальна сьвядомых кадраў у мусульманскіх рэспубліках. Аднак, як мы ўжо бачылі, рост нацыянальнай самасьведамасьці — гэта не лякальная і не спарадычная зьява, уласьцівая толькі савецкаму Ўсходу і паўднёваму Ўсходу. У галіне культуры й 'пераацэнкі вартасьцяў', асэнсаваньня ўласнага гістарычнага мінулага, нацыянальная сьведамасьць расьце і ў іншых стратэгічна важных ускраінах імпэрыі — на Ўкраіне і ў Беларусі, на Каўказе і ў Прыбалтыцы. Прычым найбольш перакананымі выказьнікамі нацыянальнага адраджэньня выступаюць не якія-небудзь 'буржуазныя нацыяналісты', а выдатныя культурныя дзеячы, што апэлююць да таго-ж Леніна, да якога часта пачаў зьвяртацца і Гарбачоў для абгрунтаваньня 'радыкальных рэформаў', 'галоснасьці', 'дэмакратызацыі'. І ўсе яны ў адзін голас цьвердзяць: няўміручасьць нацыі грунтуецца на няўміручасьці ейнае мовы, дадаючы пры гэтым, што іхныя мовы засуджаныя на зьнікненьне, калі ня будзе 'радыкальных рэформаў' і ў галіне партыйнай моўнай палітыкі.

«Важна адзначыць, — піша праф. Аўтарханаў, — што дакумэнты Беларусаў (г. зн. ліст 28-х да Гарбачова — рэд. «Б-са»), былі складзеныя за дваццы дні да алмаацінскай дэманстрацыі, якая адбылася 17-18 сьнежня 1986 году. Аднак падзеі ў Казахстане і ліст Беларусаў да Гарбачова знаходзяцца ў нябачнай, але глыбокай духовай сувязі міжсобку. Тое, што разважныя эўрапейцы зь Менску аргумэнтавана выклалі на паперы, тэмпэрамэнтныя Казахі з Алма-Аты вынесьлі на вуліцы. Дакумэнты Беларусаў дакладна і бяз эмоцыяў адлюстроўваюць запраўднае палажэньне ўва ўсіх нацыянальных рэспубліках, вобласьцях і акругах. Галоўнае значэньне беларускіх дакумэнтаў палягае ў тым, што яны ставяць кардынальнае пытаньне нацыянальнай палітыкі партыі, пытаньне, на якое на гэтым этапе 'галоснасьці' Гарбачоў наўрад ці можа адказаць інакш, як агульнымі фразамі».

## ЗБОРНІК «СПАДЧЫНА» «ЗАРЭЗАНЫ НА КОРАНІ»

Бюракраты-перастрахоўшчыкі ў Менску ня толькі разграмілі клюб «Спадчына» (гл. «Б-с» № 338), але й зарэзалі зборнік пад гэткім-жа назовам. Пра гэта даведваемся з выступленьня пісьменьніка й навукоўца Ніла Гілевіча ў бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» (1987, № 3, б. 41). У бюлетэні, у рубрыцы «Слова пісьменьніка», зьмешчаныя Гілевічавы «роздумы аб выхаваньні гістарычнай сьвядомасьці». Вось што пісьменьнік кажа:

«На вялікі жаль, неразумная і, я нават сказаў-бы, шкодная традыцыя недаверу да навукова-аб'ектыўнага асьвятленьня гісторыі Беларусі яшчэ не пераадолена. Усё яшчэ адчуваецца моц пазыцыі перастраховачнай: абы ціха было і як-бы чаго ня здарылася. Пераканальны доказ гэтага — лёс зборніка 'Спадчына', які пяць гадоў назад ужо быў падрыхтаваны выдавецтвам 'Мастацкая літаратура' і нават набраны, аднак-жа сьвету так і не пабачыў. У зборніку мелася на мэце зьмяшчаць матар'ялы і дасьледаваньні па гісторыі беларускай літаратуры і мастацтва, невядомыя чытачу, знойдзеныя ў архівах і сховішчах, творы беларускіх пісьменьнікаў, успаміны пра мінулае, пра выдатных людзей нашай культуры — і шмат чаго такога іншага. Гэтую разумную ініцыятыву горача падтрымала літаратурная грамадзкасьць рэспублікі, таму што ў такім альманаху даўно насьпела патрэба. Таму што беларускія вучоныя-літаратуразнаўцы, гісторыкі беларускага мастацтва і філасофска-эстэтычнай думкі адчулі вялікі доўг перад чытачамі рэспублікі, сплачваць які без падобнай публічнай трыбуны цяжка. І вось — хаця неабходнасьць у зборніку 'Спадчына' больш чым відавочная — выданьне было зарэзана на корані. Прычына? Прычына заўсёды знойдзецца. Было-б жаданьне. Дакладней — нежаданьне: ваяўнічае, зацятае нежаданьне, каб людзі лепш ведалі гісторыю свайго народу і яго культуры. Калі-б не ўмяшаньне грубай дагматычнай сілы — тым часове мелі-б ужо на сёньня пяць выпускаў штогодніка 'Спадчына'».

## *БРЫТАНЕЦ ПРА КНІГУ АЛЕГА БЕМБЕЛЯ*

Брытанскі навуковы часапіс The Slavonic and East European Review (No. 3, July 1987) зьмясьціў рэцэнзію на самвыдавецкую кнігу Алега Бембеля «Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс» (Лёндан, 1985, выд. ЗБВБ). Рэцэнзэнт Майкл Кэрквуд (Kirkwood), выкладчык Лёнданскага ўнівэрсытэту, піша, што на аснове Бембелявае кнігі цяжка ўстанавіць, наколькі дакладна яна адлюстроўвае пагляды ўсяго грамадзтва БССР на беларускую мову. На Захадзе, кажа рэцэнзэнт, гэткія дасьледаваньні куды больш складаныя й больш верагодныя. Паколькі аднак Алегу Бембелю, каб правесьці пяршынная сацыялінгвістычнае дасьледаваньне, давялося працаваць нават ня ў межах афіцыйнае савецкае навукі, зазначае праф. Кэрквуд, гэта паказвае нам запраўдны характар гэтае навукі. Кнігу Бембеля, паводля рэцэнзэнта, нельга аднак клясыфікаваць як антысавецкую ці нават антырасейскую. Бембель, кажа Кэрквуд, крытыкуе блізарукіх адміністратараў, якія трымаюцца нягнуткае палітычнае лініі, даючы заходнім крытыкам зброю для антысавецкае прапаганды.

**АЛЕГ БЕМБЕЛЬ**

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА ГУМАНІТАРНЫЯ КАНФЛІКТЫ

**(На прыкладзе аднаго зь іх)**

*Адкрыты ліст М. С. Гарбачову, дзеячом гуманітарнае культуры.*

Паважаныя таварышы!

Хачу скарыстаць зь «мяча, што загойвае раны — з галоснасьці», каб пагутарыць з Вамі ў адкрытым лісьце пра важныя, з майго гледзішча, пытаньні новага палітычнага й гуманітарнага мысьленьня. Нагода для гэтага быццам-бы і не такая важная, каб да яе прыцягваць Вашу ўвагу: за публікацыю ў Англіі, бязь ведама й згоды аўтара, майго рукапісу «РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНА ПРАГРЭС» мяне выключылі з партыі. Але тое — як гэта зроблена, чым матывавана ды што прыйшло за гэтым, — на мой погляд, заслугоўвае на Вашую ўвагу як лідэраў абнаўленьня нашага грамадзтва й сыстэмы міжнародных дачыненьняў.

Дзеля мяне разграмілі маладны, пэрспэктыўны сэктар, які за два гады свайго існаваньня стаўся заўважнай зьявай у культурным жыцьці рэспублікі, за які культурная грамадзкасьць змагалася шмат гадоў, — сэктар сацыяльнай псыхалёгіі й эстэтыкі Інстытуту філязофіі і права АН БССР. Сурова пакараны загадчык сэктару, выдатны вучоны, лаўрэат Дзяржаўнае прэміі БССР, доктар філязофскіх навукаў У. М. Конан (яму далі строгую вымову з запісам на ўлікавую картачку, прымусілі адыйсьці ад становішча загадчыка сэктару). Строгія вымовы дасталі таксама дырэктар ІФП АН БССР Я. М. Бабосаў ды сакратар партбюро інстытуту А. А. Тарасенка, а таксама загадчык музэю старабеларускай культуры пры ІЭФ АН БССР О. В. Царашчаткава — за тое, што чатыры гады таму (!) дазволіла мне выступіць на сэмінары з дакладам пра маю кнігу. Вось некаторыя вонкавыя адзнакі глыбокай, выразна палітычнай сытуацыі, якая склалася ў партыйнай арганізацыі АН БССР *фармальна* вакол майго *няплянавага* рукапісу «РОДНАЕ СЛОВА...», а ў існасьці вакол цэлага кірунку ў дасьледаваньні праблемы нацыянальнага й інтэрнацыянальнага ў мастацкай культуры Беларусі, якую я распрацоўваю ўжо каля 15 гадоў.

І ў дысэртацыі маёй («НАЦЫЯНАЛЬНАЕ І ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАЕ Ў МАСТАЦКАЙ КУЛЬТУРЫ. На матар'ялах мастацкае культуры БССР»), рэкамэндаванай да абароны яшчэ ў 1977 годзе сэктарам гісторыі філязофіі Інстытуту філязофіі й права АН БССР (тады сэктар узначальваў Н. С. Купчын), але пасьля — літаральна «заблякаванай» нашай гуманітарнай бюракратыяй, — і, яшчэ ў большай меры, у рукапісе «РОДНАЕ СЛОВА...» — адлюстраваная й прааналізаваная даўная й глыбока канфліктная сытуацыя ў гуманітарнай сыстэме асьветы (дашкольнай, сярэдняй, вышэйшай), а адсюль — і ў нашых гарадох, разбурэньне (ад недагляду ці наўмысна) большай часткі нашых помнікаў гісторыі й культуры, нашых літаратурна-ляндшафтных помнікаў (хоць невялікая частка іх рэстаўруецца або ўжо рэстаўраваная, і гэта, пэўна-ж, добра). Вось сэнс і пафас маіх працаў — паказаць, якую шкоду спрычыняюць гэтыя нэгатыўныя зьявы ня толькі маральна-эстэтычнаму й сацыяльна-псыхалягічнаму разьвіцьцю нашага народу, але й прэстыжу нашай рэспублікі сярод братніх народаў Савецкага Саюзу ды замежных краінаў. Паказаць, наколькі больш плённым і цікавым было-б нашае духовае жыцьцё, калі-б мы агульнымі намаганьнямі выправілі сытуацыю на лепшае. Вызначыць канкрэтныя падыходы да перабудовы, да якаснага абнаўленьня нашай гуманітарнай сфэры. (Мае канкрэтныя прапановы ў гэтай галіне сфармуляваныя таксама ў дакладных запісках у адпаведныя рэспубліканскія інстанцыі, улучна з ЦК КПБ). Аднак мясцовая бюракратыя дзесяткі гадоў фактычна блякуе нават публічнае абмяркоўваньне гэтых праблемаў, якія даўно ўжо сталіся ня толькі маральна-этычнымі, але й палітычнымі, не жадае ня толькі разьвязваць, але нават бачыць гэтыя набалелыя праблемы культуры «чалавечага фактару» (апошні абуральны выпадак гэтае блякады — непублікацыя газэтай «Літаратура і Мастацтва» стэнаграмаў выступленьняў беларускіх пісьменьнікаў на апошнім рэспубліканскім зьезьдзе, хоць «Литературная газета» прысьвяціла цэлы нумар — за 27.07.86 г. — стэнаграмам выступленьняў пісьменьнікаў на зьезьдзе ўсесаюзным).

У сувязі з гуманітарным канфліктам, пра які йдзе гутарка, я й хачу падзяліцца з Вамі накаторымі думкамі й прапановамі.

Аднак спачатку каротка апішу, як праходзіла 17 сьнежня паседжаньне Камітэту партыйнага кантролю пры ЦК КПСС, на якім я якраз спадзяваўся знайсьці ўважлівых суразмоўнікаў, кампэтэнтных у пытаньнях гуманітарнай культуры людзей, якія глыбака ўнікнуць, у існасьць праблемы, у зьмест мае кнігі, маіх намераў і канкрэтных прапановаў — і мы разам паспрабуем знайсьці канструктыўнае разьвязаньне няпростых пытаньняў — у духу новага палітычнага й гуманітарнага мысьленьня. Вось даволі падрабязнае апісаньне таго, што адбылося 17 сьнежня 1986 году на паседжаньні КПК.

Увайшоўшы ў даволі прасторны кабінэт, я пабачыў сядзячых паабапал даўгога стала змучаных людзей (асобаў 30, відаць), як мне здалося, пажылога веку, што моўчкі й яўна недабразычліва на мяне пазіралі. Мяне пасадзілі на вольнае месца на адным канцы стала. З супрацьлежнага боку сядзеў старшыня, як мне здалося спачатку — мудры старац, які ўсё разумее.

Па кароткай інфармацыі А. С. Даданава, у якой быў выціск з мае пэрсанальнае справы, слова было дадзена мне. Папярэдне мне параілі быць гранічна кароткім і засярэдзіцца, у асноўным, на сваіх памылках, каб пасьля, у дыскусіі, адказваючы на пытаньні, я мог-бы больш падрабязна насьвятліць тое, што будзе цікавіць членаў Камітэту. Я гэтак і зрабіў. Вось што я сказаў.

*(Працяг на 4-й б.)*

## НАМ ПІШУЦЬ ЗЬ БЕЛАРУСІ

### ЗМАГАНЬНЕ ЗА СВАЮ ШКОЛУ Ў МЕНСКУ

Сёлета ў Менску ўпяршыню, дзякуючы настойлівасьці бацькоў, адчыніліся тры беларускія клясы. Зьбюракратызаванае Міністэрства асьветы БССР рабіла ўсё, каб не дапусьціць да адчыненьня беларускіх клясаў. У некаторых раёнах гораду школьная адміністрацыя вяла супраць бацькоў шалёную расейска-шавіністычную прапаганду. Беларускія заявы клаліся «ў шуфляду», а сярод бацькоў пашыраліся чуткі, што ў беларускія клясы прыймаюць недарзьвітых дзяцей, у выніку чаго з 20-30 заяваў заставалася 2-3.

Але пачатак пакладзены. Мы пэўныя, што з кожным годам колькасьць беларускіх клясаў будзе расьці, як расьце нацыянальная сьведамасьць Беларусаў.

### ПРАТЭСТ НА ДЗЬВІНЕ

На пачатку травеня 1987 г. беларуская моладзь правяла «Воднае ралі-87», аб чым было спавешчана ў «Чырвонай Зьмене» (пасьля чаго рэдактара выклікалі ў ЦК і ён атрымаў вымову). На ралі, якое за мэту мела прыцягнуць увагу да праблемы затапленьня беларуска-латышскіх тэрыторыяў для пабудовы эканамічна нявыгоднай Дзьвінскай ГЭС, сабралася латышская й беларуская моладзь. На некалькіх дзясятках чаўноў яны выправіліся ўніз па Дзьвіне ад Друі да Дзьвінску. На прыстанках сьпявалі беларускія і латышскія народныя песьні, вакол чулася выключна беларуская і латышская мова. Як суседзі, паразумеваліся без дапамогі «великого и могучего». Перад канцом вандроўкі ля Дзьвінску зладзілі фэстываль, на якім пяялі народныя песьні, чыталі вершы, танцавалі пад беларускі й латышскі рок-гурты. Быў праведзены сыботнік, грошы зь якога меліся пералічыць на рэстаўрацыю якой-небудзь будыніны пад цэнтар беларуска-латышскай моладзі.

Камсамол аказаўся вельмі незадаволены такім «самавольствам», але ратаваў мундзір і паслаў у апошні мамэнт на ралі свайго функцыянера, каб прыпісаць ініцыятыву сабе, а таксама паказаць сваю вялізную ролю ў прадухіленьні «нацыяналістычных выступленьняў».

Шмат хто пасьля ралі быў папярэджаны аб тым, што наступным разам да іх будуць ужытыя рэпрэсійныя меры (выганьне з партыі, школы і г.д.).

### *«ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА» ПРА ВОДНАЕ РАЛІ*

Газэта «Чырвоная зьмена» (орган ЦК камсамолу Беларусі; рэдактар В. Плюскоў) у нумары за 26 красавіка сёлета пісала пад гэткім загалоўкам:




*ліст у «Спадчыну»*

**Калі Дзвіна выходзіць з берагоў...**

**ДЗВІНА І ПАДЗВІННЕ Ў НЕБЯСПЕЦЫ! НАША ПАМЯЦЬ У НЕБЯСПЕЦЫ! НАША СУМЛЕННЕ Ў НЕБЯСПЕЦЫ!**

«...Мы хацелі-б, каб барацьба за Дзьвіну перастала быць барацьбой адзінак, мы хацелі-б, каб яна стала яшчэ адным пляцдармам дэмакратызацыі грамадзтва і пашырэньня публічнасьці. Так нарадзілася ідэя нашага маладзежнага воднага ралі 'Дзьвіна-Даўгава-87'. Яно, па-першае, мае на мэце яшчэ раз прыцягнуць увагу грамадзкасьці да праблемы будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС, а, па-другое, выхаваць у моладзі актыўную і наступальную грамадзянскую пазыцыю, ўсялякім выпадку, у пытаньнях экалёгіі й культуры. Вельмі важным момантам падарожжа, на нашу думку, зьяўляецца яго інтэрнацыянальны характар, а таксама вялікая пазнавальнасьць.

«Цяпер пра само воднае ралі 'Дзьвіна-Даўгава-87'. З боку нашай рэспублікі ў ім удзельнічаюць маладзежныя клюбы і суполкі, якія так ці інакш сутыкаюцца з пытаньнямі экалёгіі аховы помнікаў гісторыі і культуры. Чытачы 'Чырвонай Зьмены' ўжо мелі магчымасьць пазнаёміцца зь менскім клюбам 'Талака' і полацкім літаб'яднаньнем 'Крыніцы'. Трохі меней вядома пра гродзенскую 'Паходню' і гомельскую 'Талаку'. У падарожжы думаюць прыняць удзел сябры маладзежнага літаб'яднаньня пры Доме літаратараў, фальклёрны калектыў Л. Сімаковіч, некаторыя маладыя мастакі, якія проста ў падарожжы будуць замалёўваць помнікі і краявіды з тым, каб потым арганізаваць у Менску мастацкую выстаўку 'Затапленьне'.

«З латышскага боку ў ралі ўдзельнічаюць некалькі студэнцкіх будаўнічых атрадаў з Рыгі і Даўгаўпілса, якія аб'яднаныя ў Латвіі маладзежным рухам экалёгіі і культуры і непасрэдна ў часе працоўнага сэмэстру рэстаўрацыяй помнікаў.

«29 красавіка ралі 'Дзьвіна-Даўгава-87' стартуе ў Друі на т.з. народных чаўнох (палатышску tantas laivas), звычайных пластыкавых чаўнох, якія вельмі папулярныя ў Латвіі і на поўначы Беларусі. Скончыцца ралі маленькім маладзежным фэстывалем у ноч з 2-га на 3-га мая. Фэстываль адбудзецца на 7 кілямэтраў па Дзьвіне вышэй Даўгаўпілса, пад вёскай Нэўнаграва, у раёне будаўніцтва ГЭС. Маршрут ралі праходзіць па Дзьвіне, непасрэдна ў зоне затапленьня».

### БУДАЎНІЦТВА ДАЎГАЎПІЛСКАЙ ГЭС СПЫНЕНАЕ

На пачатку лістапада сёлета саюзны ўрад, як паведаміў ТАСС, пастанавіў спыніць будаўніцтва Даўгаўпілскай гідра-электрычнай станцыі.

Паводля праекту, пад затапленьне падпадалі 62 населеныя пункты ў Беларусі і больш за 80 у Латвіі («Неман», 1987, № 9, бб. 132, 137).

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА КАНФЛІКТЫ

*(Працяг з 3-й б.)*

«Тры рэчы я хачу Вам заявіць перш-наперш:

1. Бязумоўна, віна мая — *як члена партыі* — вельмі цяжкая. І перш-наперш у тым, што — пасьля ўзьнікненьня канфліктнае сытуацыі з выдаўцамі — я не зьвярнуўся ў вышэйшыя партыйныя органы, улучна з ЦК КПСС. Калі-б я гэта зрабіў, барджэй за ўсё ведамых падзеяў, зьвязаных з маім рукапісам, не адбылося-б. Усе спрэчныя пытаньні можна было разьвязаць у працоўным парадку. А так, у выніку мае самавольнае дзейнасьці для прапаганды майго яшчэ, бязумоўна, сырога ў шмат якіх мамэнтах рукапісу, інфармацыя пра яго нейкім чынам трапіла ў Англію. Як гэта здарылася, я ня ведаю.

2. *Мэта мая* — поўнасьцяй супадае з духам перабудовы, якая цяпер адбываецца: захаваць усё лепшае ў гуманітарнай спадчыне кожнага народу, і перш-наперш асноўную гуманітарную каштоўнасьць — родную мову. Гэта — у духу і 27-га зьезду, і праведзеных пасьля зьездаў пісьменьнікаў, тэатральных дзеячоў СССР, створанага Савецкага Фонду Культуры.

3. Я гатовы панесьці якое-хаця партыйнае спагнаньне, але ўсё-ж прашу Вас дазволіць мне працягваць працу — ізноў у якасьці члена партыі, каб я мог справай даказаць маю шчырасьць, сваю карысьць у справе рэвалюцыйнага абнаўленьня ўсіх сфэраў нашага жыцьця, у тым ліку й сфэры гуманітарнай».

Тады выступіў член КПК І. Ф. Косаў. Ён сказаў:

«Рэч не ў канфліктнай сытуацыі з выдаўцамі. Вы ўвайшлі ў канфлікт зь ісьцінай, у якой жыве беларускі народ, беларуская мова. Мы ўчора гутарылі з вамі: колькі было ў Беларусі да рэвалюцыі акадэміяў, унівэрсытэтаў, школаў ды іншых установаў культуры? Калі-б ён праанілізаваў усё гэта сумленна й аб'ектыўна, ён ня зьбіраў-бы падобныя паклёпніцкія выдумкі. Ён увайшоў у канфлікт з праўдай, із сваім родным беларускім народам і мовай. Ходзіць і зьбірае ўсе пошласьці й хлусьню, якія ходзяць аб беларускім народзе й мове. І — без абагульненьня й аналізу — стаў раздаваць свой рукапіс. Гэта самая запраўдная антысавецкая, антыбеларуская дзейнасьць. Ня месца яму ў партыі!»

Не пасьпеў прамоўца закончыць апошняе слова, як адна салідная дама, ягоная суседка, зь перапоўненымі зацятай ненавісьцяй сталёвымі вачыма, усклікнула: — Падтрымаць!

Іншыя ўдзельнікі дыскусіі амаль адначасна загудзелі: — Іншых думак няма!

(Старшыня): — Вы сталі па шлях простых паклёпаў. Вы паклёпнічаеце на Беларусь...

(Дама): — Падтрымаць! Іншых думак няма!

(Старшыня): — Мы падтрымваем пастанову ЦК КП Беларусі. Усё. Вы свабодны.

(Я): — Бывайце здаровы!

Гэтак закончылася нашая плённая, ажыўленая дыскусія ў Камітэце партыйнага кантролю пры ЦК КПСС 17 сьнежня 1986 году.

Ледзь я пасьпеў зачыніць дзьверы кабінэту, як за мной сьледам выйшаў А. С. Дадонаў і, запрасіўшы мяне ў свой кабінэт, яшчэ ў калідоры пачаў казаць наступнае:

«Усё гэта, Алег Андрэевіч, пэўнаж, ня значыць, што вас раз і назаўсёды выкрэсьліваюць з партыі. Вы яшчэ малады чалавек, у вас усё яшчэ наперадзе. Пры вашым беззаганным трыманьні, калі вы усёй сваёй дзейнасьцяй і трыманьнем у быце (у вас-жа і другая сям'я, як вы самі казалі, ня склалася) пакажаце, што вы ўсьвядамілі свае памылкі, тады па пэўным часе можна будзе разгледзець пытаньне аб вашым уступленьні ў партыю на агульных асновах. А пасьля, ужо будучы ізноў у партыі, вы зможаце паставіць пытаньне аб аднаўленьні партыйнага стажу (колькі ў вас: 10 гадоў стажу? — Не, 15). Ну, вось тады, — ізноў-жа, калі вашае трыманьне, праца, жыцьцё будуць беззаганныя ўва ўсіх дачыненьнях, — вам можа быць адноўлены партыйны стаж ад таго часу, калі вы першы раз уступілі ў партыю.

«А ў нас, вы ня думайце, таксама ёсьць нэрвы, і эмацыянальна мы адчуваем стан людзей, якія да нас прыходзяць. Вось вы бачылі: жанчына рыдала, калі ёй адмовілі ў апэляцыі. Нам усё гэта таксама ня лёгка, мы таксама жывыя людзі.

«Так што ня падайце духам, працуйце. Усяго вам найлепшага.

«Неўзабаве, за пяць хвілінаў (было за пяць 12-я) адчыніцца буфэт. Вы перакусеце, адзначце пропуск, толькі не прапусьцеце гэтага, як учора, каб і вам і нам не рабілі больш заўвагаў. Гэта будынак рэжымны, і парадкі тут строгія.

«А што, як вы кажаце, вы чалавек гарачы, запальчывы, дык-жа гэта блізу кожны можа пра сябе сказаць. Але-ж, скажам, з начальнікам на працы вы стрымваецеся, не даяце эмоцыям захлынуць вас — інакш ён проста вас звольніць. Значыцца, пры жаданьні, можна стрымваць сябе і ў сям'і...

«Усяго вам найлепшага!..»

У дадатак да 320 старонак мае кнігі (улучаючы 22-старонкавае пасьляслоўе пісьменьніка Уладзімера Караткевіча), прыхільных водгукаў члена-карэспандэнта АН БССР М. Н. Ганчарыка і др. філяз. навукаў У. М. Конана, шматлічных разносных выступленьняў і рэцэнзіяў маіх цяперашніх апанэнтаў, карацей у дапаўненьне да чатырох тамоў дакумэнтаў, прысьвечаных маёй пэрсанальнай справе, хачу сказаць наступнае:

Кнігу «РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС» мяне змусіла напісаць глыбокая ўстурбаванасьць станам беларускае мовы ў сёньняшняй Беларусі. Наколькі дасканальна мне ўдалося ўжыцьцёвіць сваю задуму, зразумела, не магу меркаваць. Але я, у меру сваіх сілаў, стараўся не адыходзіць ад прынцыпаў поўнае праўды ды галоснасьці, якая, паводле словаў «Праўды», становіць «меч, што загойвае раны».

Уявеце сабе, што чалавек, які прыяжджае ў сталіцу Расеі, амаль нідзе ня чуе расейскае мовы... Як у гэткай сытуацыі адчуваў-бы сябе Расеец?.. Кожны з Вас?.. Ці, скажам, Лермантаў... Герцэн?.. Маршал Жукаў?..

«Кожны чалавек адчувае сябе асабіста паніжаным і абражаным, калі паніжаны й абражаны ягоны народ». Гэтыя словы Э. Шэварднадзэ на юбілейнай сэсіі ААН дакладна адлюстроўваюць аб'ектыўную сытуацыю і мой нутраны стан, што змусіў мяне напісаць «РОДНАЕ СЛОВА...» Я адчуўся *асабіста* паніжаным і абражаным тым, да якога стану даведзеная жывая беларуская мова ў сёньняш-

*(Заканчэньне на 7-й б.)*

# ЛІСТ ЗЬ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Шаноўны Пане Рэдактар!

Зьвяртаюся да Вас са справай, якая для мяне сталася прычынай свайго роду духовага крызісу.

На працягу пэўнага часу знаходзіўся я ў ЗША. Ня быў я там з рацыі палітычных мэтаў ці ідэялягічных імкненьняў. Проста жыў і працаваў, каб зарабіць крыху грошай. Увесь час быў ў кантакце зь Беларусамі, якія памаглі мне знайсьці работу.

Вялікім было маё зьдзіўленьне, калі пабачыў я, што ў ЗША цэнтрам беларускай дзейнасьці зьяўляюцца цэрквы. Гэта яны дзейнічаюць у тым напрамку, каб ня гінула беларускае слова, каб захоўваліся беларускія традыцыі, каб разьвівалася беларуская культура. Зразумела, што ўсе гэтыя мэты дасягаюцца дзякуючы таму, што сьвятары пасьлядоўна паслугоўваюцца беларускай мовай і што гэтую мову ўводзяць усё у царкоўны ўжытак, і то ня толькі ў пропаведзі, але і ў царкоўны рытуал.

Другая зьява, якая мяне прыемна зьдзівіла, заключалася ў тым, што на многіх як царкоўных, так і сьвецкіх сходах амэрыканскія Беларусы складалі вялікія сумы даляраў, прызначаныя на пабудову праваслаўных цэркваў на Беласточчыне. Я і сам ня раз выступаў і заахвочваў сабраных даваць грошы на пабудову цэркваў. На некаторых сходах чыталіся лісты прысланыя духоўнымі зь Беласточчыны. лісты гэтыя былі напісаныя прыгожай беларускай мовай. Калі слухаў іх, расло маё сэрца. Я быў перакананы, што ў часе маёй няпрысутнасьці на Беласточчыне шмат што зьмянілася ў нашым царкоўным жыцьці — царква становіцца цэнтрам нацыянальнага жыцьця, як гэта бачым у Рускіх, Палякоў, Украінцаў і Літоўцаў. Праўда, мае родныя пісалі мне, што ў нашай царкве ўсё пастарому, аднак я думаў, што ў іншых цэрквах паявіліся новыя зьявы.

Прыехаўшы назад у Польшчу, я пабачыў, што моцна памыляўся. Праваслаўныя цэрквы ў нас, як гэта было й раней, у далейшым зьяўляюцца цэнтрам не беларушчыны, але расейшчыны. Праўда, ёсьць пэўныя зьмены, але гэтыя зьмены ідуць не ў напрамку беларусізацыі царквы, а толькі яе палянізацыі. Усё часьцей чуваць у царкве і вакол царквы польская мова. Духоўныя ў сваіх дамох у ніякім выпадку не паслугоўваюцца беларускай мовай, а іхныя дзеці пагалоўна гавораць папольску. Усё шырэй ужываюць для акрэсьленьня праваслаўнага сьвятара тэрмін «ксёндз». Здаецца нашым сьвятаром, што такім апартуністычным спосабам яны здабудуць той прэстыж, які маюць у польскім грамадзтве ксяндзы. Яны не разумеюць, што атрымваецца рэзультат зусім адваротны, і што такім чынам яны падразаюць галіну, на якой сядзяць.

Ходзячы нядаўна па праваслаўных могільніках у Беластоку, пабачыў я мрамарную пліту, якую паставіў сабе загадзя адзін праваслаўны сьвятар. Было на ёй напісана папольску: «Ksiądz N...». Калі я папытаўся ў дачкі свайго брата, якая ходзіць у Беластоку на заняткі рэлігіі, як яны зьвяртаюцца да духоўнае асобы, што вядзе заняткі, яна мне адказала, што ім загадалі зьвяртацца: «Proszę księdza».

Я — ні вучоны, ані дасьледчык, а толькі чалавек працы. Аднак разумею, што сёньняшнія сьвятыні, незалежна ад веравызнаньня, мусяць цьвёрда абапірацца на нацыянальны грунт, і што Праваслаўная Царква ў Польшчы, вернікамі якой перадусім Беларусы з Дуброўшчыны, Сакольшчыны, Гайнаўшчыны, Бельшчыны і з ваколіц Сямятычаў, ня можа быць выключэньнем, хіба што хоча загубіць сябе і ўсіх Беларусаў.

І таму мне здаецца, што амэрыканскія Беларусы, даючы грошы на пабудову цэркваў на Беласточчыне, павінны юрыдычна дамагчыся ад праваслаўнага епіскапату ў Польшчы гарантыі адносна беларусізацыі царквы ў нашым краі. Калі гэтак ня станецца, дык амэрыканскія Беларусы, паміма свае волі, будуць дапамагаць русыфікацыі й палянізацыі Беларусаў у Польшчы, адным словам памогуць выкапаць магілу беларускасьці, на якой паставяць пліту з польскім напісам.

**Прыхаджанін зь Беластоку**

---

## СПЫНІЦЬ ЗЕМЛЯРОБСТВА ВАКОЛ ЧАРНОБЫЛЯ?

За «круглым сталом» часапісу «Неман» (№ 9, 1987) Л. В. Казлоўская, намесьнік дырэктара навуковай працы Інстытуту эканомікі АН БССР, сказала гэткае:

«Нам ня можна забывацца і пра выніканарнобыльскай аварыі. Вось я прачытала ў газэце 'Советская Белоруссия' інтэрвію з намесьнікам старшыні Дзяржаграпрому БССР І. Н. Нікітчанкам 'Гарчая пара на параненым полі'. Якімі-б аптымістычнымі ні здаваліся высновы з гэтага інтэрвію, думаецца, што трэба разгледзець пытаньне і аб спыненьні земляробства й жывёлагадоўлі ў раёнах суседніх з трыццацікілямэтровай зонай, аб выніках выпаду цяжкіх радыёактыўных элемэнтаў у некаторых раёнах Магілеўскай вобласьці».

---

## АН БССР: НЯМА АДДЗЕЛУ ВЫВУЧЭНЬНЯ ЗЯМЛІ

«...У нашай Акадэміі Навукаў няма прыродаведнага ў поўным сэньсе гэтага слова інстытуту. Дваццаць пяць гадоў пра яго гавораць і пішуць артыкулы. Гэта адзіная рэспубліканская акадэмія, якая ня мае ні аддзелу навукаў аб зямлі, ні адпаведнай структуры, ні падрыхтаваных спэцыялістаў-камплексьнікаў. Цяпер Сібірскі аддзел АН СССР у Барнауле стварыў інстытут водных праблемаў і экалёгіі, Дальняўсходні аддзел стварыў у Хабараўску інстытут водных праблемаў і экалёгіі. Недарма яны ствараюць, сытуацыя нагэтульскі паважная і так трывожная, што вымагаецца запраўды праца буйных інстытутаў. У нас-жа, паўтараю, нават аддзелу навукаў аб зямлі няма, што й гаварыць пра спэцыяльныя інстытуты».

(В. С. Аношка, дагадчык катэдры глебаведы й геалёгіі Беларускага Дзяржаўнага Ў-ту імя Леніна, прэзыдэнт Геаграфічнага Таварыства БССР, у дыскусіі за «круглым сталом» аб Даўгаўпілскай ГЭС. «Неман», 1987, № 9, 139).

---

## МЕНСК: БЕЗ НАЦЫЯНАЛЬНАГА МУЗЭЮ

«Сёньня няма іншай сталіцы саюзнай рэспублікі, акрамя нашай (і трэба даўно саромецца гэтага!), дзе ня існуе музэю нацыянальнага мастацтва. (...) Аграмадныя культурныя каштоўнасьці складзеныя ў запасьніках і недаступныя народу. Гэта ня проста раўнадушнасьць. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, каб усё добрае, поўнае надзеі набыло будучыню, гэта — злачынная раўнадушнасьць».

*(«Мастацтва Беларусі», 1987, № 9, б.4-5)*

*Ліст у Рэдакцыю*

## АДКАЗ ПЯЦІДЗЯСЯТНІКА

Ужо другі раз пішу я ў газэту «Беларус». Аднак пішу ня ў тым самым пытаньні. Неяк чытаўшы газэту «Беларус» № 336 за чэрвень гэтага году, я заўважыў невялікі артыкул («Рост баптызму ў Беларусі»), які крануў мяне, разы чатыры я яго чытаў.

Сам я, як і мая жонка — пяцідзястнік. Да гэтай плыні ў хрысьціянстве мы прыйшлі, калі жылі яшчэ ў Савецкім Саюзе. І ніхто нас ня прымушаў да гэтага кроку. Мае бацькі былі, напрыклад, дый засталіся праваслаўнымі. А я вось вырашыў ісьці такім шляхам. Гэта здарылася, калі мне было 18 гадоў, у 1974 годзе, у горадзе Маладэчне, дзе тады я жыў. Гэты крок я зрабіў відавочна перад шматлічнымі сябрамі, раднёй. Заўважылі яго і ўлады. І на маю галаву пачалі сыпацца рэпрэсіі. Дзе тут мне было рабіцца інтэлігентам, паступіць вучыцца ў ВНУ, калі я нават працаўладкавацца быў пазбаўлены магчымасьці — працаваў то дворнікам, то вартаўніком. А так хацелася працаваць на заводзе або на фабрыцы, дзе лічыўся-б сапраўды працаўладкаваным. Вось табе й зрабіся інтэлігентам, калі кавалак хлеба трэба было шмат моцы здабываць.

Аднак я знаходзіў час займацца самаадукацыяй. Грунтоўна знаёміўся з творамі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, падабаўся мне Васіль Быкаў, падтрымваў я Алега Бембеля, але не ўва ўсім. Камуністам або сацыялістам я не быў і ня ёсьць. Хоць, дарэчы, і яны могуць існаваць, але хацелася-б, каб безь зьвярыных рысаў. Беларускае грамадзтва хацелася-б бачыць сапраўдна дэмакратычным, а Беларусь незалежнай краінай, дзе было-б шмат партыяў. Пакуль гэта мары, але ўсё магчыма…

Нядрэнна быў я азнаёмлены і з расейскай культурай. Добра гаварыў парасейску і нават пісаў невялікія вершы. Зь пісьменьнікаў расейскіх мне падабаліся і Пушкін і Някрасаў, і Гогаль, і Герцэн, і Мандэльштам, і Ахматава, і Пастэрнак, і нават Маякоўскі. Гэты пералік няпоўны. Можна шмат гаварыць пра Салжаніцына. Але прыпынюся ды зьвярнуся зноў да артыкулу «Рост баптызму ў Беларусі».

Памыляюцца тыя ўдзельнікі круглага стала, якія кажуць, што сярод баптыстаў няма інтэлігентаў. Можа ня шмат, але ёсьць. Яны дбаюць пра родную мову й культуру. Зразумлела, расейскі баптыст — пра расейскую, украінскі — пра ўкраінскую. Няма сакрэту, што беларускі баптыст менш за іншых дбае пра сваю культуру. Але таксама й беларускі праваслаўны ў Беларусі, ці шмат ужывае беларускую мову?! Ня шмат, я гэтаму сьветка. І службы, прыкладам, у маладэчанскім праваслаўным храме ідуць ў расейскай мове. Што больш і казаць? Такі стан і ў баптысцкім малітвеным доме ў тым-жа горадзе. Але я заўважыў зьмены, хоць і невялікія. Знайшоўся ў малітвеным доме адзін прапаведнік, які пачаў тлумачыць Біблію толькі пабеларуску. Вось табе і інтэлігенцыя.

А можа тыя людзі за круглым сталом разумеюць пытаньне інтэлігенцыі пасвойму, можа ім хацелася-б бачыць моцнай праваслаўную царкву, а пры гэтым уважаць так, што калі праваслаўны, дык значыць Расеец, калі Расеец, дык значыць праваслаўны. Можна так залічыць да Расейцаў і Украінцаў і Беларусаў. Але так лічыць значыць ганьбаваць чалавека, здушваць ягонае жаданьне верыць у Бога так, як ён хоча.

Таксама вельмі цікавае разважаньне аднаго з удзельнікаў круглага стала, што «англа-амэрыканскае сэктанцтва» нараджае «немца-штунду»?!! Чаму-ж яно не нараджае Ангельца ці Амэрыканца? Я мяркую, што тут няма памылкі з боку газэты, гэтак мусіць сапраўды размаўлялі за тым круглым сталом. І выказвалі пры гэтым неспакой, што фармуецца новы характар, новы тып Расейца, Беларуса або Грузіна. І, мабыць, сапраўды ён фармуецца, але навошта такі страх, што разваліцца імпэрыя, цэлая нацыя. У Амэрыцы, прыкладам, шмат баптыстаў, і ня толькі баптыстаў. Таксама і ў некаторых іншых краінах Захаду гэткі стан, але-ж нацыі не разваліваюцца, краіны не разрушаюцца, а жывуць ды мусіць і будуць жыць. Чаму-ж тады не разумець, што Расейцу, Украінцу й Беларусу больш пасуе вера, якая не пасыўная да беззаконьня, а якая сапраўды згуртоўвае людзей, накіроўвае да цьвярозага жыцьця, абуджае веру ў Бога?

Але я не адкідаю і праваслаўя, хай яно станецца сапраўдным і ў Расеі і на Беларусі, хай храмы ня будуць пустымі, як гэта, дарэчы, яшчэ часта здараецца. Праўда такая, што толькі ў гадавыя сьвяты там шмат людзей. У баптыстаў і пяцідзясятнікаў кожнае нядзелі дамы перапоўненыя. Таму я сьветка. І яшчэ, прыкладам, у Маладэчне ў баптысцкім доме добрых два дзясяткі маладых людзей штагоду прыходзяць прыймаць воднае хрышчэньне. Дык хай-жа і праваслаўе будзе для людзей ратункам. Ёсьць і сярод праваслаўных у Расеі ў мяне сябры. Гэта, напрыклад, Аляксандар Агароднікаў. Колькі ён перанёс пакутаў дзеля таго, каб праваслаўе ўваскрэсла, і ня толькі ён адзін. Колькі яшчэ было й ёсьць змагароў за гэтую справу. Ад Аляксандра я ня бачыў такога стаўленьня да нас і нашай веры, як ад тых людзей за круглым сталом. Ён наадварот, хацеў супрацоўніцтва, хацеў запачаткаваць хрысьціянскі часапіс, каб разам казаць людзям аб збаўленьні празь Ісуса, каб разам казаць нашым народам, расейскаму й беларускаму, аб сапраўднай волі. Мы жадалі дэмакратыі ўсім сэрцам, сапраўднага брацтва ўсіх народаў, каб ня было «старэйшага брата», каб усе былі роўныя. А імпэрыя хай яна сапраўды разваліцца на радасьць усім: Беларусам, Расейцам, Эстонцам, Туркменам і г.д., праваслаўным, каталікам, баптыстам ды іншым. Нацыі тады ня зьгінуць, ня зьгінуць культуры, яны гінуць пры гэтай імпэрыі, яны гінуць цяпер.

Улады савецкія вельмі жорстка ставяцца да ўсіх, хто хоча волі, хто сумленна верыць у Бога і хоча жыць пахрысьціянску, жыць сумленна. Мая жонка Тамара Баяроўская, напрыклад, была засуджаная ў 1983 г. ў траўні месяцы на тры гады пазбаўленьня волі, але не адбывала тэрміну, бо зьбіралася ўжо радзіць. Яна атрымала два гады ўмоўнага рэжыму. За што, спытаеце? Як-бы за антысавецкую прапаганду. Мая жонка была актывістка ў пяцідзясятніцкай царкве ў горадзе Вільні, актыўна абараняла правы на сваё жыцьцё, як і правы іншых веруючых. У выніку давялося быць пакаранай. Але не зламанай. Нарэшце ўлады папрасілі нас пакінуць Савецкі Саюз, што мы й зрабілі — выехалі ў Ангельшчыну, дзе жыве Тамарын дзядзька Міхаіл Баяроўскі.

Тут на Захадзе мы хочам застацца Беларусамі, хочам яднацца зь іншымі, ня ўхіляцца ад ніякае дзейнасьці на карысьць Беларусі. Вядома, гэта — словы, з часам павінны быць і справы. Хоць невялічкай справай я лічу гэты свой ліст тым, што сядзелі за круглым сталом, пра які пісалася ў «Беларусе». Гэта ім мой адказ, адказ Беларуса-пяцідзясятніка.

Прабачце, калі ліст мой нядобра напісаны, магчыма, непасьлядоўна. Дарэчы, я ў школе ня вывучаў сваё роднае мовы, дзеля гэтага могуць быць памылкі.

З пажаданьнем усяго найлепшага —

**Пятро Грыгальчык**

## З МАЙГО ПАДАРОЖЖА ПА ЗЛУЧАНЫХ ШТАТАХ

*(Працяг з папярэдняга нумару)*

Настаў час вялікага падарожжа на паўднёвы Захад. З Галінаю й Васілём даляцелі самалётам да Дэнвэру (Калярада), а адтуль нанятым самаходам падаліся ў Санта-Фэ (Новая Мэксыка). На колькі дзён гэты маленькі, але як-жа прыгожы горад стаўся нашым цэнтрам. Ляжыць ён ля падножжа гораў Сангрэ-дэ-Крыста. Заснаваны ў пачатку XVII ст. Гішпанцамі, горад захаваў і да сяньняшняга дня архітэктурны характар гішпанскага «Пуэблё». Дамы індыянскага стылю, зробленыя з гліны й бэлькаў рукамі запраўдных майстроў. Таксама й катэдры Сьв. Францішка, у якой знаходзіцца ведамая драўляная статуя Дзевы Марыі, «Ля Конквістадора», прывезеная сюды недзе ў XVII стагодзьдзі. Горад і далей разбудоўваецца ў тым-жа стылі, поўны гармоніі й харавства, сваеасаблівага чару. Празрыстасьць паветра й прыгажосьць наваколля спрычыніліся, што горад стаўся рэгіянальным цэнтрам мастацтва й культуры. Палац Губэрнатараў — найстарэйшы дом у Злучаных Штатах у бесьперапынным публічным ужытку. Разьмешчаны ў Палацы музэй адлюстроўвае гісторыю гэтага краю, пачынаючы ад дагішпанскага пэрыяду. Побач — Музэй Прыгожага Мастацтва, дзе можна пабачыць, апрача палотнаў, малёваных тутэйшымі мастакамі, і партрэт, выкананы ўраджэнцам Віцебску Лявонам Гаспарам (Leon Gaspard).

У Санта-Фэ я першы раз сутыкнуўся зь Індыянамі, зь іхнай гісторыяй і мастацтвам. Гэты сутык быў для мяне прыемна неспадзяваным, уражаючым.

Музэй Індыянскай Культуры й Мастацтва, адкрыты ў чэрвені сёлета ў Санта-Фэ, зьведаць, нажаль, не давялося, але індыянскую культуру й мастацтва мы ўбачылі ў шматлічных іншых музэях, або на «тэрэне». Часьцінку гэтага можна ўжо ўгледзець перад Палацам Губэрнатараў у Санта-Фэ, дзе сотні індыянскіх мастакоў штодня раскладаюць для продажу свае цудоўныя гліняныя вырабы й дываны. Якая роскаш вузораў і колераў! Якая дакладнасьць у самым выкананьні геамэтрычных рысункаў! Падобнае рабілася калісьці продкамі. Сёньня яно ізноў ажывае воляй іхных спадкаемцаў. Раскопкі й музэі пры іх служаць крыніцаю, школаю і натхненьнем для сучасных Індыянаў. Вось табе й «дзікія» (savage), як гэта было высечана на абэліску, пастаўленым недзе ў XIX ст. ў цэнтры на пляцы ў Санта-Фэ. Нашчасьце, гэтае savage сёньня ўжо сьсечанае долатам, а каля абэліска зьмешчаная дошчачка з паясьненьнем, што тое слова ўжывалася ў «духу часу»… Вось і «дзікія», якіх «цывілізаваныя» прышэльцы занявольвалі, гвалцілі душы, або часта й зусім вынішчалі. Гэткім быў для мяне першы сутык з мастацтвам іхных нашчадкаў, так неспадзяваны й прыемны.

Першае з нашых падарожжаў было ў Пэкас, 25 міляў (каля 40 км.) ад Санта-Фэ. Пэкас Пуэблё ляжыць на скалістым хрыбце, навокала якога даліна ракі Пэкас. Жыло там калісьці ня менш за дзьве тысячы Індыянаў, заняткам якіх была сельская гаспадарка, ловы. Заваяванае недзе каля 1540 году салдатамі ведамага Каранада, насельніцтва Пэкас Пуэблё часта паўставала ды выганяла гішпанскіх захопнікаў на даўгія гады. Але-ж яны вярталіся. Сёньня засталіся руіны вялікіх дамоў, на некалькі паверхаў, па 3-4 памешканьні на кожным зь іх. Засталіся й вялізарныя руіны Францішканскай місіі з 1620 году, разбуранае падчас паўстаньня, адбудаванае ўжо ў меншым памеры па канчатковай акупацыі.

Зьведалі й сьвятыні «Ківа», якія ў Індыянаў выконвалі ня толькі рэлігійную, але й сацыяльна-грамадзкую функцыю. Вынішчаныя белымі ды іхнымі рознымі хваробамі, апошнія 20 жыхароў пакінулі сваё Пэкас Пуэблё ў 1838 годзе. Раскопкі вядуцца й сёньня. Усе знахадкі матар'яльнай культуры памешчаныя ў маленькім музэі.

Другая паездка была ў Бандэльерскі Нацыянальны Парк, недалёка ад Лёс-Алямасу. Гэты парк захоўвае ўмела адкапаныя індыянскія руіны, разьмешчаныя пасярэдзіне вялізарнага каньёну Фрыёлес, а таксама й памешканьні, убудаваныя ў сьцены наваколных белых скалаў (cliff dwellings). Тагачасныя жыхары былі запраўднымі майстрамі — архітэктарамі, што ў найбольш рацыянальны спосаб выкарыстоўвалі кожную шчыліну, кожнае заглыбленьне ў скалістых сьценах для пабудовы маладаступных для непрыяцеля памешканьняў. Некаторыя зь іх чорныя ад дыму. Таксама й іхныя рэлігійныя падземныя пакоі «ківа» знаходзяцца на высокіх пляцоўках, доступ да якіх ня вельмі лёгкі. Усё гэта разьмешчана ў маляўнічым і глыбокім каньёне з маленькаю і чысьцюсенькаю рачулкай і выклікае надзвычайнае ўражаньне.

Ня толькі тут — амаль усе індыянскія тагачасныя вёскі былі разьмешчаныя ў месцах, дзе можна было бараніцца, але дзе можна было займацца й паляваньнем, а то й сельскай гаспадаркай, каб жыць. Сёньня замест тубыльцаў тут толькі рэнджэры, што ахоўваюць руіны, ды групкі наведнікаў. Усё гэта пакідае ў памяці сьлед, што не затрэцца.

Схаваўшыся ад сьпякоты ды заспакойваючы смагу ў турыстычным цэнтры, мы дзяліліся ўражаньнямі, гутарачы пабеларуску, як да нас падыйшла дзяўчына й пацікавілася, адкуль мы. Васіль і Галіна адказалі, што яны зь Нью-Джэрзы. Гэта яе напэўна яшчэ больш заінтрыгавала — бо хіба-ж у гэным штаце такою моваю не гавораць? Галіна вытлумачыла ёй, што гэта за мова ды хто мы з паходжаньня. Я сказаў, што я з Бэльгіі. Адкуль з Бэльгіі? — З Бруксэлі. — А я была студэнткай у Лювэне, — тады, перайшоўшы ўжо на францускую мову — і пражыла там восем гадоў. — Дык я таксама канчаў там сваю навуку!..

Сьвет малы.

**А. Арэшка**

*(Працяг у наступным нумары)*

**ВІТАЙЦЕ З КАЛЯДАМІ Й НОВЫМ ГОДАМ ПРАЗ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»!**

# НОВЫ КАЛЕКТЫЎНЫ ЛІСТ НА БЕЛАРУСІ

*(Заканчэньне зь 1-й б.)*

ныя Беларускай акадэміі навук на свой уласны кошт і па сваёй уласнай ініцыятыве падлічылі, што эканамічны эфэкт ад будаўніцтва ГЭС ні ў якім разе ня зможа пераважыць экалягічныя ды іншыя страты для Беларусі.

Для цэнтральных улад, якія ўжо выдаткавалі на гэтае спрэчнае будаўніцтва значныя сродкі, справа ўскладнялася яшчэ й тым фактам, што грамадзкая кампанія пратэсту супроць будаўніцтва ГЭС адбывалася аднachасова ў дзьвюх савецкіх нацыянальных рэспубліках: Латвіі і Беларусі. Шкоды для Латвіі павінны былі паўстаць ня меншыя, чым для яе паўднёвай суседкі. Але спэцыфіка латышскага пратэсту супроць плянаў маскоўскіх эканамістаў заключалася ў тым, што там да грамадзкага пратэсту свой голас далучылі й некаторыя дзяржаўныя дзеячы. На Беларусі-ж нічога падобнага не назіралася. Тут кіраўніцтва рэспублікі вымоўна маўчала, чакаючы на рэакцыю Масквы на гэтыя пратэсты беларускай і латышскай грамадскасьці. Гэтая аморфная пазыцыя беларускага кіраўніцтва і сталася адной з прычынаў, чаму беларуская інтэлігенцыя ўжыла зноў сваю, традыцыйную ўжо, тактыку зьбіраньня подпісаў пад калектыўным лістом.

Другой вельмі важнай прычынай распачацьця на Беларусі новай масавай кампаніі сталася сустрэча на месцы будаўніцтва будучай ГЭС прадстаўнікоў беларускай і латышскай моладзі. На Беларусі ініцыятыва гэтай сустрэчы належала да маладзежных дзеячоў, добра вядомых сваёй актыўнасьцю ў нацыянальных беларускіх справах, што, зразумела, выклікала адпаведную заклапочанасьць уладаў.

Удзельнікамі сустрэчы з Латышамі сталіся галоўным чынам члены нефармальных маладзежных аб'яднаньняў: менскіх «Спадчыны» й «Талакі» ды віцебскага «Ўзвышша». Былі на сустрэчы й асобныя прадстаўнікі маладзежнага асяродзьдзя Полацку й Воршы. Апрача свайго галоўнага прызначэньня, сустрэча была выкарыстаная ў якасьці яшчэ адной галоснай дэманстрацыі балючай заклапочанасьці й шчырага абурэньня моладзі сучасным станам роднай мовы й культуры беларускага народу. Гэта была яшчэ адна нагода галосна выразіць пратэст супраць чарговай зьнявагі волі беларускага народу.

Сама форма ажыцьцяўленьня гэтай дэманстрацыі беларускасьці не магла ня выклікаць нэгатыўнай рэакцыі ўладаў. Моладзь сабралася недзе ў раёне Полацку і на раней падрыхтаваных плытох рушыла ў бок Латвіі па цячэньні Заходняй Дзьвіны. Плыты былі яскрава размалёваныя і ўпрыгожаныя ў нацыянальным беларускім стылі. Пад беларускімі старажытнымі сьцягамі, вайсковымі харугвямі й эмблемамі, сярод якіх цэнтральнае месца займала «Пагоня», моладзь кіравалася на сустрэчу. Гэткім чынам моладзь намагалася падкрэсьліць, што змаганьне ў абарону беларускасьці разгортваецца з новай сілай, што вядомыя Траецкія падзеі, гэты жорсткі антыбеларускі пагром (у травені сёлета ў Менску — рэд. «Б-са»), зусім ня зменшылі жаданьня беларускай моладзі змагацца за свае нацыянальныя правы, а хутчэй наадварот — прыдалі ёй новыя сілы.

Сустрэча-пратэст беларускай і латышскай моладзі галосным рэхам адбілася ў беларускім народзе. У менскім інтэлігенцкім асяродзьдзі яе аднадушна разглядалі ў якасьці яшчэ аднаго вельмі істотнага кроку на шляху да новага нацыянальнага адраджэньня нашага народу. Яна сталася таксама крокам наперад у нараджэньні супрацоўніцтва савецкіх нерасейскіх нацыянальнасьцяў у змаганьні за свае правы.

Латышы, зрэшты, маюць свае вельмі складаныя праблемы. Хоць русыфікацыя там і не зайшла, ды й не магла зайсьці, так далёка як на Беларусі, затое працэнт Латышоў сярод жыхароў іх рэспублікі на працягу ўсяго веннага часу стала зьніжаўся. І сёньня ён дасягнуў крытычнага ўзроўню: амаль 50 працэнтаў. Савецізацыя Латышоў, як бачым, адбываецца не за кошт моўнага й культурнага наступу на іх нацыянальныя вартасьці, а шляхам наступовага, але няўхільнага засяленьня Латвіі Расейцамі. Зразумела, што гэтымі сваімі праблемамі латышская моладзь дзялілася са сваімі беларускімі сябрамі на сустрэчы.

На дзіва, рэакцыя беларускіх савецкіх уладаў на гэтую дэманстрацыю незалежнай волі й думкі беларускай і латышскай моладзі была даволі стрыманая. У Акадэміі навук далі нагану архэолягу Э. Зайкоўскаму, аднаму з галоўных арганізатараў сустрэчы, ды менская ўнівэрсытэцкая камсамольская арганізацыя разьбіралася зь некаторымі студэнтамі-ўдзельнікамі гэтага надзвычайнага вандраваньня.

Такім чынам, у аснове новай кампаніі збору подпісаў пад лістом-пратэстам супроць будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС ляжалі тры прычыны: посьпех моладзежнай сустрэчы-пратэсту, няпэўнасьць рэспубліканскіх уладаў адносна плянаў Масквы ды ўплыў кароткай, але глыбокай традыцыі пісаньня лістоў да Гарбачова.

Ініцыятыва ліста, як гэта ўжо стала традыцыяй, нарадзілася ў Акадэміі навук. Гэта й зразумела, менавіта навукоўцы больш за іншых разумелі тыя аграмадныя шкоды, якія можа прынесьці Беларусі Даўгаўпілская ГЭС. У адрозьненьне ад лістоў да Гарбачова працэс зьбіраньня подпісаў пад гэтым лістом-пратэстам адразу набыў шырокі размах. Толькі ў самой Акадэміі навук свае подпісы паставілі амаль паўтары тысячы чалавек. Сярод падпісаўшых былі шмат якія вядомыя вучоныя, у тым ліку і члены-карэспандэнты, і акадэмікі АН БССР.

Даволі шмат подпісаў было сабрана не толькі ў Менску, але й на Віцебшчыне, якую непасрэдна й датычыць будова ГЭС. Гэткая даволі значная лічба падпісаўшых у параўнаньні зь лістамі да Гарбачова зьвязана з амаль выключна экалягічным зьместам ліста-пратэсту.

Накіраваны ліст быў на адрас беларускіх і цэнтральных партыйных і дзяржаўных уладаў. У ім прыводзіліся вынікі спэцыяльнага навуковага дасьледаваньня беларускімі вучонымі эканамічнага ды іншага эфэкту будаўніцтва Даўгаўпілскай ГЭС. Падкрэсьлівалася, што справа будаўніцтва — гэта сёньня ўжо ня чыста эканамічнае пытаньне, а справа палітычнай вагі, якая гарманічна ўпісваецца ў працэс нацыянальнага абуджэньня беларускага народу.

Нажаль, на сёньняшні дзень мы ня маем яшчэ тэксту гэтага новага калектыўнага ліста на Беларусі, але ўжо сам факт яго існаваньня ды ажыцьцяўленьня ў БССР масавай кампаніі збору подпісаў пад ім вымоўна сьветчаць аб тым, што лісты да Гарбачова ня былі выпадковымі, што беларуская сьвядомая нацыянальна інтэлігенцыя пачала пакуль што сьціплую, але пасьлядоўную і няўхільную барацьбу за палітычнае й нацыянальнае абуджэньне свайго народу, за яго палітычную адукацыю.

Разрэкламаваная гарбачоўская дэмакратызацыя сталася для гарбачоўскага кіраўніцтва даволі небясьпечным мэтадам рэклямы свайго новага сацыялізму «з чалавечым тварам». Яна агаліла шматлікія супярэчнасьці краіны, у тым ліку, і ў першую чаргу, у галіне вельмі складанага й заблытанага ў СССР нацыянальнага пытаньня.

Упяршыню ў паваенпай гісторыі Савецкага Саюзу аб Беларусах пачалі гаварыць як аб нацыі, якая пачала абуджацца ад летаргічнага сну, выкліканага доўгай і цяжкай саветызацыяй. Беларусы зноў, як і на пачатку стагодзьдзя выйшлі на палітычную арэну і змусяць іх пакінуць яе будзе ня так лёгка. Такая сёньня рэальнасьць жыцьця ў нацыянальных адносінах у Савецкім Саюзе, яна нараджае шмат надзей і спадзяваньняў.



*Гэтую фатаграфію сям'і Браніслава й Анастасіі (з дому Краўчанкаў) Нагорных зьмясціла француская акруговая (гор Ле Крэзо) газэта Le Progrès (13.X.87) з нагоды 40-годзьдзя сужэнства сп-тва Нагорных, у якіх пяцёра дзяцей і дзевяцёра ўнукаў. Газэта зазначыла беларускае паходжаньне сп. Нагорнага ды выказала сп-тву Нагорным найлепшыя пажаданьні. Да гэтых пажаданьняў далучаецца й газэта «Беларус», якую сп. Нагорны стала чытае й падтрымвае.*

## З ЖЫЦЦЯ Ў МЭЛЬБУРНЕ (АЎСТРАЛІЯ)

**Сп. М. Скабею споўнілася 23.X.87 г. 82 гады.** З гэтае нагоды спакаліся ў яго запрошаныя сябры ды ў мілай атмасфэры адзначылі ўгодкі, жадаючы юбіляру добрага здароўя ды плённай працы на грамадзкай ніве.

**Паніхіду па сьв. пам. М. Кулагу,** на 40-ы дзень па сьмерці, адслужыў у нядзелю 25.X.87 г. а. А. Кулакоўскі, настаяцель царквы БАПЦ у Мэльбурне. Шмат вернікаў ушанавалі памяць цiхага, але ахвярнага Беларуса, пра што сказаў у сваім слове а. Кулакоўскі.

**М. Н.**

## ПРАФ. Г. ПЯТРОЎСКІ ПРА «КУБІНСКІ КРЫЗІС»

Сп. Гары Пятроўскі (сын беларускага выдаўца й перакладніка Яна Пятроўскага) выкладае гісторыю ў Таўсанскім Штатным Унівэрсытэце. Праф. Г. Пятроўскі зьмясьціў у газэце «Болтымар Сан» (23.X.87) артыкул пад заг. «Кубінскі крызіс: хто выграў, хто прайграў». Аўтар аналізуе канфрантацыю ў кастрычніку 1962 году паміж савецкім лідэрам Хрушчовам і прэзыдэнтам Кенэды ў сувязі з савецкім намерам разьмясьціць на Кубе ракеты. Праф. Пятроўскі піша, што канфрантацыя закончылася ня трыюмфам Кенэды над Хрушчовым (як аб гэтым пісалі ў 1982 г. былыя супрацоўнікі амэрыканскага прэзыдэнта), а кампрамісам: за згоду Хрушчова не разьмяшчаць сваіх ракетаў на Кубе Кенэды згадзіўся забраць амэрыканскія ракеты з Турэччыны, а таксама Кенэды пагадзіўся на «цэласьць кубінскае тэрыторыі» (г. зн. пакінуць Кубу пад уладай камуністаў). Із свайго боку, Хрушчоў адмовіўся ад прэтэнсіяў на спрэчныя тэрыторыі, якія знаходзіліся пад уладай Туркаў.

## НА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Ад 30-га кастрычніка да 1-га лістапада сёлета ў Вашынгтоне адбывалася чародная гадавая канфэрэнцыя Фэдэрацыі Нацыянальных Рэспубліканскіх Этнічных Групаў (ФНРЭГ). У працах канфэрэнцыі ўзяла ўдзел беларуская дэлегацыя ў складзе: Янка Раковіч — старшыня, Павал Васілеўскі і д-р Вітаўт Кіпель — сябры.

За старшыню ФНРЭГ на наступны двухгадовы тэрмін была абраная сп-ня Анна Шэно (кітайскага паходжаньня). ведамая амэрыканская палітычная дзеячка, аўтар колькіх працаў з галіны эканомікі ды сувязная ў дачыненьнях між Вашынгтонам і Тайванем (Нацыянальным Кітаем).

У рэзалюцыях канфэрэнцыі было зноў пастаўленае дамаганьне амэрыканскіх Беларусаў аб увязданьні беларускае мовы ў праграмы «Голасу Амэрыкі». Матар'ял да рэзалюцыяў быў падрыхтаваны сп. Васілём Мельяновічам, старшынём Беларускіх Рэспубліканскіх Клюбаў, і сп. Я. А. з Каліфорніі.

## У АМЭРЫКАНСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ СЛАВІСТАЎ

У горадзе Бостане 5-8.XI.1987 г. адбылася гадавая канфэрэнцыя Амэрыканскае Асацыяцыі Славянаведы. Сёлетняя канфэрэнцыя была асабліва людная, у ёй узялі ўдзел прадстаўнікі ня толькі каля сотні амэрыканскіх унівэрсытэтаў ды з карэў Захаду, але й славісты з Польшчы, Югаславіі, Усходняе Нямеччыны ды нават з Савецкага Саюзу. Галоснасьць!

Для беларускага дасьледніка асабліва важнымі былі даклады на тэму вынікаў Чарнобыльскай аварыі. Пасобныя дакладчыкі гаварылі пра змаганьне Беларусаў за адраджэньне нацыянальнае мовы ды магчымыя палепшаньні беларускае эканомікі.

Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў працах канфэрэнцыі ўзялі ўдзел спадарства Зора й Вітаўт Кіпелі.

### *ВЫСЬВІСТАЛІ «ПЕСЬНЯРОЎ»*

Адбылося гэта ўвесну сёлета ў Менску. Ансамбль «Песьняры» пачаў свой канцэрт расейскай песьняй на словы Маякоўскага. Публіка зарэагавала на гэта сьвістам, крыкамі. «Песьнярам» давялося адразу-ж «перабудоўваць» свой рэпэртуар. Ансамбль перайшоў на беларускія песьні. Канцэрт далей прайшоў спакойна.

Вестка гэтая, што дайшла да нас праз Польшчу, нядаўна была пацьверджаная крыніцамі з БССР.

# КОЛЬКІ СЛОВАЎ ПРА КАНФЛІКТЫ

*(Заканчэньне з 4-й б.)*

няй Беларусі. І, як аўтар, імкнуўся зрабіць усё, што ад мяне залежала, каб прынцып «чым менш хлусьні й паўпраўды» няўхільна перадаваўся ад першага да апошняга радка. Каб у кнізе быў дакладна адтвораны ўвесь спэктар ўспрыйманьня й ацэньваньня моўнае сытуацыі на Беларусі — з гледзішча іхнага якаснага, маральна-эстэтычнага азначэньня (а ня «валу», колькасьці носьбітаў тых ці іншых ацэнак і ўспрыйманьняў). У кнізе выкарыстаны, у асноўным, мастацкі мэтад дасьледаваньня (як, скажам, у маім апісаньні таго, што адбывалася 17.XII.86 г. ў КПК), спалучаны з элемэнтамі канкрэтна-сацыялягічнага й філязофскага.

На мой погляд, было-б ня толькі высакамаральна — з боку Масквы (я ўкладаю тут самы высокі, лермантаўскі сэнс гэтага слова) — даць санкцыю мясцовым уладам на выданьне ў Беларусі кнігі «РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭСТЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС» (разам з тэкстамі выступленьняў маіх апанэнтаў, у тым ліку й тых, хто катэгарычна супраць публікацыі, пратаколамі папярэдніх абмяркоўваньняў, у тым ліку на КПК 17.XII.86 г.), але й *палітычна мэтазгодна:*

Па-першае, гэта паказала-б, што Масква, наўсуперак недабрасумленным цьверджаньням прапаганды нашых палітычных апанэнтаў, *на справе* падтрымвае — у ўмовах рэвалюцыйнае перабудовы — нармальнае разьвіцьцё нацыянальных культураў Саюзных рэспублік і, упаасобку, культуру самай прыступнай — у пляне выкарыстоўваньня імі «тэзісу русыфікацыі» — Беларусі.

*Па-другое,* гэта паказала-б усім — і прыяцелям і недабразычліўцам, — што рэвалюцыйная перабудова набірае размаху й глыбіні, што Масква наважана выкарэньвае памылкі й перакосы мясцовае бюракратыі даперабудоўвальных часоў, упаасобку, блякаваньне галоснасьці — паводля прынцыпу: як-бы, чаго ня выйшла! — пры абмяркоўваньні набалелых праблемаў, нежаданьні публікаваць кнігі, у якіх праўдзівая інфармацыя аб грамадзкай думцы й г.д.

*Па-трэйце,* — і гэта самае важнае, — гэта фактычна значыла-б санкцыю кіраўніцтву рэспублікі на кардынальную перабудову гуманітарнае сфэры, з тым каб ёю кіравалі людзі, якія *запраўды* творцы й носьбіты гуманітарных каштоўнасьцяў беларускага народу. У пляне рэалізацыі канцэпцыі новага палітычнага й гуманітарнага мысьленьня гэта мела-б выключнае значаньне — як у нутраным, гэтак і ў міжнародным пляне. Апрача таго, што гуманітарная сфэра цэлага народу дастала-б нарэшце магчымасьць запраўды паўнакроўна разьвівацца — ня толькі паводля *«валу»,* але й *якасна,* — гэта ўшчэнт выбіла-б у нашых палітычных апанэнтаў нават найменшыя рэальныя зачэпкі для антысавецкае й антыкамуністычнае прапаганды ў нацыянальным пытаньні.

Што да *міжнародных* аспэктаў сытуацыі *вакол* мае кнігі, дык я хацеў-бы зьвярнуць Вашу ўвагу на наступнае:

Сам сабою факт публікацыі нашых кнігаў за мяжой (у тым ліку й прысьвечаных нашым набалелым пытаньням), на маю думку, зьява ў вышэйшай ступені дадатная. Гэта дае іншым народам аб'ектыўную інфармацыю пра наша жыцьцё (нават, — а, магчыма, пераш за ўсё, — калі кніга напісаная вельмі суб'ектыўна, небесстароньня, з болем і гневам — усё гэта і ёсьць нашае рэальнае жыцьцё, нашыя праблемы — калі пісаць «бяз хлусьні й паўпраўды») — і гэткім чынам умацоўвае міжнародныя ўзаемадачыненьні й давер. А інфармацыя пра нашыя крытычныя, болевыя пункты, апрача ўсяго іншага, — калі яна стаецца аб'ектам пільнае ўвагі не толькі прыяцеляў, але й недабразычліўцаў, — і змусіць нас самых *прысьпешаным тэмпам* выправіць сытуацыю, дзе гэта неабходна.

Зразумела, ужыцьцяўляць міжнародныя публікацыі пажадана паводле правілаў, прынятых у цывілізаваным сьвеце, — гэта значыць, першнаперш, зь ведама й згоды аўтара, — што ў выпадку з маёй кнігай было выразна парушана. Аднак, драматызаваць сытуацыю, на мой погляд, няма ніякае неабходнасьці, бо сакрэтнае інфармацыі ў маім рукапісе ня было, ён у цэлым дае даволі поўны й аб'ектыўны абраз *найбольш запушчаных праблемаў* разьвіцьця беларускай культуры. І, казаў той, «няма благога, каб на добрае ня выйшла», — факт парушэньня маіх аўтарскіх правоў, магчыма, прысьпешыць выпраўленьне гуманітарнае сытуацыі на Беларусі і навокала яе (у сыстэме ЮНЭСКО, у сыстэме міжнароднае інфармацыі й г.д.) на лепшае. Гэта дасьць магутны зарад энэргіі «чалавечаму фактару» нашай рэспублікі, а на міжнароднай арэне будзе спрыяць умацаваньню гуманітарнага аўтарытэту Савецкага Саюзу й КПСС.

І нарэшце, канкрэтная прапанова што да перабудовы нашай гуманітарнай сфэры:

Пры нашых творчых саюзах (пісьменьнікаў, мастакоў, тэатральных дзеячоў, філёзафаў і г.д.), савецкім Фондзе Культуры, пры ўдзеле Аддзелу культуры ЦК КПСС і Міністэрства культуры, — павінен быць арганізаваны Камітэт гуманітарнага кантролю — з найбольш аўтарытэтных дзеячоў нашага часу — які быў-бы вярхоўным на сёньняшні дзень грамадзкім арбітрам у разьвязваньні (творчым, канструктыўным, разумеецца) гуманітарных канфліктаў, колькасьць і глыбіня якіх, пры гэтак інтэнсыўным, як нашым часам, разьвіцьці «чалавечага фактару» будзе, бясспрэчна, нарастаць.

P. S.

Кніга «РОДНАЕ СЛОВА...» пачынаецца вершам, які выклікаў гнеўную рэакцыю шмат каго з маіх апанэнтаў, якія ўгледзелі ў вершы самыя розныя правіны, у тым ліку і... падкопы сыянізму (гл. дакумэнты мае пэрсанальнае справы). Верш невялікі, дзеля гэтага падаю ягоны тэкст поўнасьцяй.

*ДУХОЎНАМУ БРАТУ ПЯТРА І*

*Нязломнай волі, шчырага натхненьня*
*Пятрову брату, што да нас прыйшоў.*
*І памятай: на ніве абнаўленьня*
*Абапірайся — не на халуёў.*

*І не на шэрасьць. Бо ў сваіх скляпеньнях*
*Змарнуе ўсё, што родам ад сьвятла.*
*Ёй ненавісны талент і сумленьне,*
*Ёй ненавісна і твая мятла.*

*На тых вярней за ўсё абапірайся,*
*Чый дух лунае ў вогнішчы вякоў,*
*Чыя душа — скрозь катаржная праца...*
*Абапірайся — на ерэтыкоў!..*

*На тых, хто — «супраць». Стоікаў зацятых.*
*Нашчадкаў праўды церняў і цьвікоў,*
*Стагодзьдзяў даўніх і гадоў трыццатых...*
*За соль зямлі трымайся, брат Пятроў!..*

Прашу адначасна разглядаць гэты ліст як апэляцыю чарговаму пленуму ЦК КПСС — як вярхоўнаму партыйнаму органу ў перапынках паміж зьездамі партыі.

---

## РЭЛІГІЙНАЯ ХРОНІКА З ДЭТРОЙТУ

### ПАНІХІДА ПА СЬВ. ПАМ. О. ЗАПРУДНІК

У нядзелю 4 кастрычніка сёлета ў царкве Сьвятога Духа БАПЦ у Іст-Дэтройце, пасьля літургіі, Прат. а. Міхась Страпко адслужыў паніхіду па памерлай 30-га верасьня сёлета сьв. пам. Олі Запруднік, жонцы др. Янкі Запрудніка. На паніхідзе было шмат прыхаджанаў, гасьцей, асабістых прыяцеляў сям'і нябожчыцы, якія выказалі глыбокае спачуваньне др. Запрудніку й ягонай сям'і. Парафіяльны хор сьпяваў пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Артон.

### ШЛЮБ ПЯТРА ГАРБАЧОВА

У сыботу 24 кастрычніка адбыўся шлюб пляменьніка нашага друкара сп. Міколы Пруская, Пятра Гарбачова із сп-чнай Шэрылян Рычардс. Шлюб даваў Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх БАПЦ, у царкве Сьв. Духа ў Іст-Дэтройце. Царква была запоўненая сябрамі парафіі, сваякамі й прыяцелямі маладое пары, гасьцямі. Вельмі прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп-ні Веры Артон. Шлюбны абрад, які Ўладыка Мікалай вёў у дзьвюх мовах, беларускай і ангельскай, вельмі спадабаўся амэрыканскім гасьцям.

Трэба зазначыць, што малады даўгія гады быў прыслужнікам у царкве Сьв. Духа, парафіяне яго вельмі любілі ды ўважалі за свой абавязак быць на ягоным шлюбе. Парафія Сьв. Духа жадае маладой пары даўгіх і шчасьлівых гадоў супольнага жыцьця.

**В. П.**

## *ЛІСТ З АЎСТРАЛІІ*

Вельмі Паважаная Рэдакцыя!

У нас у Адэляйдзе беларускае грамадзкае й царкоўнае жыцьцё праходзіць спакойна. Пара году надыходзіць вельмі цёплая, лета, як выглядае, будзе гарачае.

Адзін з нашых Беларусоў езьдзіў нядаўна дамоў да сястры. Быў у Глыбокім, Менску, Вільні. Усюды гавораць пра «перабудову». Цяжкая гэта справа і зацягнецца на даўгія гады. Там заведзены такі парадак, што тое, што зробіць малы начальнік, вялікі не перарабляе. Прыкладам, брыгадзір у калгасе піша працадні колькі каму захоча — ад аднаго ўкрадзе, а другому дапіша. Гэтак яно й далей вядзецца. Гутараць усе парасейску: ты да яго пабеларуску, а ён парасейску — проста агідна слухаць. У Вільні ўсе гавораць палітоўску. Калі ў яго пытаешся пабеларуску, то адкажа так, каб зразумеў.

Мяса ядуць больш сьвіное. Прадаюць яго ўсім папарадку: каму пападзе добрае, а каму кепскае.

Калі сям'я хоча мець зямлю, саўгас можа выдзяліць гэтулькі, колькі можа абрабіць. Але людзі ня хочуць браць зямлю, бо коней няма, няма малых трактароў, дык чым будзеш абрабляць. Людзі баяцца, каб зноў ня вывозілі, калі прыватнік стане багатым.

Купіць памешканьне ў горадзе каштуе ад 10 000 да 15 000 рублёў (тры пакоі й кухня).

У больніцы — два ўзроўні лячэньня: для простых людзей адо, для былых ваенных і для гасьцей, што прыехалі зь іншага краю, другое. Кормяць ураньні ячнай кашай, а на абед і на вячэру — маленькі кавалачак мяса, каму які пападзецца. Інвалідам вайны і замежным гасьцём — тое самае, але дадаюць адно яйко на дзень. Пасьцель мяняюць кожны тыдзень, а простым людзям — раз на месяц.

Калі хто гадуе сьвіней, дык кормяць хлебам, бо вотрубей няма дзе купіць прыватніку. Хлеба ніхто сам не пячэ, усе купляюць гатовы.

Гарэлку дазволена прадаваць два дні ў тыдні.

Вопраткі ў магазынах пабольшала.

На ўборку бульбы прывозілі студэнтаў. Калісьці ня было дазволена зьбіраць бульбу на полі пасьля ўборкі, а цяпер можна.

Чарнобыльская аварыя прывяла да таго, што зямлю давялося здымаць на два інчы.

З пашанаю —

**У. Акавіты**

## СТРАХ ПЕРАД КСЭРАКСАМІ

Капіявальная тэхніка — адзін з найгоршых ворагаў усякае дыктатуры, таталітарызму. Ксэраксныя машыны — сябры свабоды. Сотні нашых суродзічаў на Захадзе, асабліва ў Амэрыцы, у ходзе штадзённае працы карыстаюцца ксэракснымі машынамі. Шмат беларускіх арганізацыяў у ЗША маюць гэткія капіявальныя машыны для сваіх патрэбаў. Амэрыканскія Беларусы інакш і не ўяўляюць сабе сягоньняшняга быту. Але зусім парознаму выглядае справа ў савецкай Беларусі.

Для савецкае ўлады навейшая электронная тэхналёгія становіць вялікую праблему й пагрозу. Як толькі ў Савецкім Саюзе зьявіліся ксэраксныя машыны, яны былі занесеныя ў катэгорыю «індывідуальных інфармацыйных сродкаў» (да гэтае катэгорыі належаць, апрача ксэраксных машынаў, пэрсанальныя камп'ютэры ды відэаапаратура) ды пастаўленыя пад кантроль спэцыяльных аддзелаў у ведамстве Камітэту Дзяржаўнае Бясьпекі (КДБ).

У Савецкім Саюзе сродкі **масаве** інфармацыі кантралююцца цэнзурным ведамствам (Галоўлітам), а сродкі **індывідуальнае** інфармацыі — службай бясьпекі. Гэтак, на прадпрыёмствах, у ўстановах, ксэраксныя машыны знаходзяцца пад наглядам даверанага пэрсаналу, і каб магчы карыстацца гэтай апаратурай, трэба спэцыяльны дазвол. Вядзецца таксама ўлік паперы для ксэраксаваньня, і асобы, што карыстаюцца штадзённа капіявальнымі машынамі, павінны рабіць тыднёвыя справаздачы. Пры гэтым усе інструкцыі аб карыстаньні капіявальнымі апаратамі належаць да віду сакрэтнай літаратуры.

Праўда, у БССР капіявальных машынаў ня шмат тымчасам. Яшчэ пару гадоў таму, як нам казалі, у Акадэміі Навукаў БССР быў усяго адзін капіявальнік. Аднак прагрэс няўхільна ідзе наперад, і з ростам капіявальнае тэхнікі, камп'ютэраў, электронікі савецкаму рэжыму будзе ўсё цяжэй трымаць інфармацыю пад кантролем.

## СТЫПЭНДЫЯЛЬНЫ ФОНД ІМЯ І. ЛЮБАЧКІ

### Да ведама грамадзтва

Прафэсар Іван Любачка, які памёр 20 ліпеня 1977 г. ў штаце Кэнтакі, пакінуў у сваім тэстамэнце пэўную суму грошай на стыпэндыі. Паводля жаданьня І. Любачкі, Стыпэндыяльны Фонд імя І. Любачкі прысьвечаны для грашовае дапамогі студэнтам, навукоўцам, дасьледнікам беларускага паходжаньня, якія распрацоўваюць беларускія тэмы. Таксама прызначаны ён для тых студэнтаў, якія зацікаўленыя ў здабыцьці вышэйшай навуковай ступені.

Адміністрацыйны камітэт фонду (Trustees) пры Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі (АБАМ) складаецца з трох асобаў: Раіса Станкевіч, Вітаўт Тумаш і Юрка Азарка. Камітэт прыняў статут і рэгулямін, паводля якіх разглядаюцца кваліфікацыі аплікантаў ды вызначаецца вышыня грашовых стыпэндыяў.

Калі хто мае якія-небудзь пытаньні або зацікаўлены ў грашовай дапамозе для вывучэньня беларускай тэмы, хай прышле сваё курыкулюм вітэ на адрас:

Byelorussian American Youth Organization
Ivan Lubachko Scholarship Fund
P.O. Box 1123
New Brunswick, N.J. 08903

**Раіса Станкевіч**
**Юрка Азарка**
**Вітаўт Тумаш**

### *НЕБЯСЬПЕЧНЫЯ ПАРТРЭТЫ*

Аўстралійская газэта West Australian (18.IX.87) у артыкуле свайго маскоўскага карэспандэнта спасылаецца на ліст аднаго беларускага дапішчыка ў часапісе «Аргументы и факты». «Чытач зь Беларусі, — піша газэта, — запрапанаваў пакінуць насіць партрэты лідэраў у часе парадаў... Залішняя хвальба высакапастаўленых асобаў, як мы бачылі, можна быць небясьпечнай».

### ЗНОЎ ПРА БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ ПАРТЫЗАНАЎ

У сёлетнім 7-ым нумары часапісу «Неман» чэкіст В. Аніконаў падзяліўся ўспамінамі аб дзейнасьці на пачатку 1950-х гадоў беларускіх партызанаў (Я. Філістовіча ды іншых) у раёнах Маладэчна, Горадні ды ў іншых мясцовасьцях. Аніконаў дае куды больш дэталяў, чым іх знаходзім у кнізе «Па воўчых сьцежках» Макара Пасьлядовіча ды іншых публікацыях. Цікава, што чэкісты ўважаюць за патрэбнае пісаць пра падзеі 35-гадовае даўнасьці.

*КАБ АМЭРЫКАНСКІЯ ГІДЫ Ў СССР КАРЫСТАЛІСЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫМІ МОВАМІ*

Выдаваная ў Амэрыцы англамоўная газэта «Украінскі Тыднёвік» (4.X.87) зьмясьціла ліст Аляксандра Січа, у якім аўтар заклікаў чытачоў пацікавіцца, якою моваю будуць карыстацца амэрыканскія гіды, суправаджаючы сваю выстаўку ў Ташкенце, Тбілісі й Менску. Сп. Січ піша, што трэба далучыцца да дамаганьняў амэрыканскіх Узбэкаў, Грузінаў і Беларусаў, каб расейская мова ня была дамінуючай, калі амэрыканская выстаўка будзе наведваць вышэй названыя гарады.

### *АДНЫМ ДЗЯКУЕМ, ДРУГІХ ЗАКЛІКАЕМ*

Суродзічы-Беларусы ў Кліўлендзе, Нью-Ёрку ды Пэрце (Зах. Аўстралія) правялі й праводзяць акцыю збору грошай на выдавецтва газэты «Беларус». Мы шчыра дзякуем усім ініцыятарам і ахвярадаўцаам ды заклікаем іншыя беларускія асяродкі зрабіць тое самае. Выдавецтва «Беларус» патрабуе сьпешнае грашовае дапамогі, каб забясьпечыць рэгулярны выхад газэты, якая пашырае на Захадзе весткі пра змаганьне Беларусаў на Бацькаўшчыне за свае правы, а таксама перадае весткі на Беларусь пра жыцьцё й дзейнасьць беларускае эміграцыі.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## *МУЗЫЧНЫЯ ГУСТЫ МЕНСКАЕ МОЛАДЗІ*

У сёлетнім студзенскім нумары часапісу «Беларусь» (які, дарэчы, рэфармаваўся, стаўся больш цікавы і зьместам і графікай) зьмешчаны ілюстраваны артыкул пра папулярны вакальна-інструмэнтальны ансамбль «Верасы». У артыкуле пададзеныя выказваньні кіраўніка «Верасоў» Васіля Раінчыка.

Раінчык кажа, што мода на дыскатэкі (да якіх улады сваім часам ставіліся «як да параджэньня пекла», але «моладзь арганізоўвала стыхійныя дыскатэкі») мінула ўжо «Цяпер, — кажа Раінчык, — зьявіліся новыя захапленьні, напрыклад, фільмамі й канцэртнымі праграмамі на відэакасэтах, і, як вынік, — дыскатэкі сталі пуставаць».

Свае новыя музычныя густы, у тым ліку сваё захапленьне «цяжкім рокам» («мэталісты»), менская моладзь выяўляе «публічна», пры дапамозе графікі. «Паглядзеце на сьцены грамадзкіх будынкаў, — кажа Раінчык, — яны сьпісаны сымбалямі папулярных рок-групаў». Раінчык не называе гэта «спараджэньнем пекла», а паясьняе: «Што гэта, як не жаданьне падлеткаў яршыста сказаць пра сябе, заявіць пра сваё існаваньне».

Кіраўнік «Верасоў» быў у Рызе. Там, кажа ён, адчынена некалькі рок-клюбаў, і новыя музычныя кірункі нармальна абмяркоўваюцца з удзелам «кампэтэнтных крытыкаў». «І спрачаюцца, вядома, — дадае Раінчык. — Але ня гэтак, як у Менску, калі сьцяна на сьцяну сышліся 'мэталісты' і 'хвалісты', г. зн. аматары 'новай хвалі' ў рок-музыцы. Гэта ўжо гульні небясьпечныя. Але чамусьці не сьпяшаюцца ў Менску і іншых гарадох рэспублікі адчыняць рок-клюбы. Камсамол чакае, якія захады зробяць органы культуры, а тыя, відаць, спадзяюцца на камсамол. У выніку — квітнее стыхійнасьць, дурная мода на рамяні з заклёпкамі і экстравагантныя прычоскі».

Раінчык сказаў, што «Верасы» шмат працуюць зь беларускімі кампазытарамі Лучанком, Івановам, Буднікам. «Добры плён абяцае творчая садружасьць з нашымі беларускімі паэтамі». Раінчык назваў гэткіх паэтаў, як Някляеў, Бураўкін, Барадулін, Дранько-Майсюк.

Цікавае выказваньне Васіля Раінчыка пра беларускую мову. «Сёньня ў 'Верасоў', — сказаў кіраўнік ансамблю, — зьявілася натуральная патрэба ў песьнях, якія будуць гучаць на беларускай мове. У гэтым нас яшчэ раз пераканалі канцэрты ў Славеніі, дзе мы былі ў складзе дэлегацыі рэспублікі на Днёх беларускае культуры. Слухачы вельмі цёпла прымалі нашу мэлядычную і зразумелую мову, здольную маляўніча расказваць пра самыя тонкія чалавечыя пачуцьці».

## СЬВ. † ПАМ. НАДЗЯ МІСЮЛЬ

Нарадзілася ў 1905 годзе, адыйшла на вечны супачынак 16 кастрычніка 1987 году.

Вернікі парафіі Божай Маці Жыровіцкай у Гайленд-Парку, Н. Дж., ды суродзічы з асяродкаў Нью-Брансьвік — Саўт-Рывэр складаюць сп. Янку Місюлю глыбокае спачуваньне з прычыны сьмерці ягонае жонкі, мілай і скромнай сяброўкі.

## *«ДАСЯГНЕНЬНІ» САЦЫЯЛІЗМУ*

### ПРАЦЯГЛАСЬЦЬ ЖЫЦЬЦЯ: НА 51-М МЕСЦЫ

«Акадэмік Фёдар Рыгоравіч Углоў б'е трывогу: 'Асабліва трывожным фактам зьяўляецца раньняе далучэньне да віна дзяцей і падлеткаў. У выніку 32% п'яніцаў і алкалголікаў далучыліся да віна ўва ўзросьце да 10 гадоў і 64% ад 11 да 15 гадоў... Па дадзеных акадэміка Амосава, працягласьць жыцьця нашых жанчын стаіць на 38-м, мужчын на 51-м месцы ў сьвеце'».
*(«Зьвязда», 25.X.87)*

### ЭКСПАНАТЫ ДЛЯ ПАЗЫЧАНЬНЯ

Дзякуючы стараньням і ахвярасьці сп-ні Зоры Кіпель, у Штатным Музэі ў горадзе Ньюварку (штат Нью-Джэрзы) створаная беларуская пазычнальная калекцыя. Беларускія экспанаты даступныя для пазычаньня школам, адукацыйным сэмінарам ды розным іншым навучальным праграмам. У анатацыях да экспанатаў сп-ня Кіпель падала шмат інфармацыі аб беларускіх народных умельствах і рамёслах.

### ГАЗЭТНЫЯ ВЫРАЗКІ

Паважаныя Чытачы!

Усе газэтныя й часапісныя выразкі (або ксэракопіі), якія Вы нам прысылаеце, вельмі патрэбныя нам. Усе яны ў тэй ці іншай форме выкарыстоўваюцца ў працы Рэдакцыі — калі не адразу, дык у бліжэйшых нумарох газэты. Прысылайце й надалей іх, зазначаючы толькі дакладна й выразна назоў, дату й месца выданьня.

З падзякаю —
**Рэдакцыя «Беларуса»**

### *СЭКСУАЛЬНАЯ РАЗБЭШЧАНАСЬЦЬ*

Паводля газэты «Зьвязда» (10.X.87), апытаньне вучняў 8-10 клясаў менскіх школаў выявіла «сумныя лікі». На пытаньне «як вы ставіцеся да фізычнай блізкасьці паміж падлеткамі?», піша «Зьвязда», «толькі 39,6% апытных адказалі: 'адмоўна'. Астатнія-ж ня мелі наконт гэтага асабістай думкі ці былі проста раўнадушныя. А 17,4% школьнікаў увогуле ацанілі 'фізычную блізкасьць' станоўча».

Далей газэта піша: «Сэксуальная разбэшчанасьць падлеткаў прымае ўсё больш шырокія маштабы і становіцца прычынай многіх злачынстваў».

«Настаўніцкая газэты» (30.IX.87) зьмясьціла ліст настаўніцы Л. Дзекун з Гомеля. Настаўніца з абурэньнем піша: «Сапраўднае каханьне... сёньня сустракаецца ўсё радзей ня толькі ў жыцьці, але і ў кнігах, у фільмах. Затое ўсё часьцей мы чытаем і бачым на экранах голыя сплеценыя целы. (...)

«Нават ў двухсэрыйным фільме 'Ганна Карэніна' рэжысэр умудрыўся ўціснуць трохмінутнае любоўнае стагнаньне Вронскага і Ганны, быццам бяз гэтых 'разьдзетых' кадраў Леў Талстой ня будзе зразуметы вучнямі. (...)

«Кінутых дзяцей, ад якіх адмаўляюцца вельмі юныя распусьніцы, становіцца ўсё больш...».

### ПАДЗЯКА

Шчыра дзякую Мітр. Прат. а. Карпу Стару, сп. Сапежынскаму, харыстам ды ўсім тым, хто дапамог мне ў цяжкім для мяне часе спачуваньнямі і ўдзелам у паховінах мае жонкі.

**Янка Місюль**

### ЭТНАГРАФІЯ БЕЛАРУСКАЙ ГРАМАДЫ Ў ЗША

Амэрыканскі этнограф Стэнфард Ніл Гербэр (Gerber) напісаў працу: **Russkoya Celo.** The Ethnography of a Russian-American Community (LC 83-45354; ICBN-19407-9). Гэта дасьледаваньне невялікае, гарадзкое грамады ў сярэднязаходняй часткі Амэрыкі, заснавае ў 1911 годзе імігрантамі зь Беларусі, галоўна з Горадзеншчыны. Аўтар апісвае ролю царквы ў гэтай грамадзе, мову, сваяцкія сувязі, звычаі, народную мэдыцыну, забабоны. Аналізуе таксама прычыны ейнага распаду, далучэньне маладога пакаленьня да амэрыканскае культуры.

Кніжка каштуе 37 даляраў.

### У ДЗЯРЖАЎНЫМ МАГАЗЫНЕ: «САШЧАМІЎШЫ ЗУБЫ»

«На кірмашовых агледзінах не накупішся тавараў на ўсю зіму, а ў цесных кватэрах шматпавярховікаў багатых запасаў ня зробіш. Вось і бяжыш зноўку да Сяргееўны у 'Гародніну' (дзяржаўны магазын — рэд. «Б-са») і, сашчаміўшы зубы, бярэш бульбу, больш паловы якой — гнілая, пабітая ці зусім дробненькая, што гарох. Мусіш браць і няпрывабныя яблыкі. Не патрабуй, каб табе пекныя паклалі. І не капайся, выбіраючы лепшае. У Сяргееўны на гэта прыпасена слова з багатых засекаў ейнага лексыкону».
*(«Беларусь», 1987, № 6, б. 16).*

### Зь гісторыі Беларусаў Амэрыкі...

### ПЕРШЫЯ ВЫСТАЎКІ

Першыя выстаўкі беларускіх мастакоў А. Шлюбскага, Б. Гурэвіча й С. Юдовіна ў Злучаных Штатах Амэрыкі былі наладжаныя ў 1920-х гадох у Лёс-Анджэлесе. Юдовін меў таксама вельмі папулярную выстаўку ў Нью-Ёрку ў 1929 годзе. У 1920-х гадох у Нью-Ёрку адбыліся выстаўкі беларуска-амэрыканскага мастака Н. Цыцкоўскага.

### АБВЕСТКА

Сп. Балеслаў Лішчонак, на свой кошт, выдаў дзьве розныя касэты зь беларускімі песьнямі й танцамі. Цана аднэй касэты — 6.00 дал. амэрыканскіх ці канадыйскіх. Перасылку аплачвае пакупнік. Замаўляць у выдаўца, або вызначанага агента мясцовага згуртаваньня. Зьвяртацца на адрас:

Mr. B. Lisczonak, 472 Byron Court,
Oshawa, Ont., LIH 6R9.
*(«Зважай» № 4(48), лістапад, 1987 г.).*